PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 46 (2114) Год XLI Беласток 17 лістапада 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*Дарафей Фіёнік у сваёй хатцы-музеі.* Фота Ады ЧАЧУГІ

## Студзіводы. Малая айчына

Ада Чачуга

Быў 1986 год, калі на парозе рэдакцыі „Нівы" паявіўся **Дарэк Фіёнік**, 18-гадовы хлопец з Бельска, вучань сельскагаспадарчага тэхнікума, які прынёс нам свае вершы і нясмела запытаў, ці можам мы іх апублікаваць. Ад таго часу пачалося наша супрацоўніцтва.

Што прывяло гэтага хлопца ў „Ніву"? Яшчэ ў тэхнікуме, успамінае ён сёння, пачалося маё зацікаўленне паэзіяй. У нас была там „моцная група" і мы ўсе прайшлі праз паэтычны тэатр „Парнас", якім кіраваў Янка Морадзь. Вось у сакавіку гэтага года мінула яго дзесяцігоддзе, а я прыйшоў туды зімою восемдзесят пятага, калі толькі пачыналі. Пераломным момантам для мяне была тады сустрэча з Надзеяй Артымовіч. Адбывалася яна яшчэ ў старым клубе ў Студзіводах. Менавіта тады я знайшоў сваю дарогу, як бы ўвайшоў у русла беларушчыны.

Тады ў нас якраз ствараўся ўкраінскі рух. Яшчэ перад „Парнасам" я шукаў сваё, але пісанае слова. Вядома, шукаў перш за ўсё ў кіёсках. Каб штосьці было не па-польску, а „па-руску". Мне выкідалі на прылавак „Праўду", „Наше слово" і „Ніву".

Вядома, „Праўду" я чытаў найлепш, бо рускую мову вывучаў у школе. Даволі лёгка чытаў я „Наше слово" і „Ніву", але ў „Нашым слове" пісалі пра Гданьск, Ольштын, Гожуў, а „Ніва" пісала пра мой рэгіён, пра маіх суседзяў і знаёмых, і я пачаў чытаць яе, хаця беларускай літаратурнай мовы я тады не ведаў, бо мы ў Студзіводах размаўлялі на дыялекце.

Пачуццё „малой айчыны", рэгіянальнасці засталося ў мяне да сёння. Мне здаецца, што калі б мяне вырвалі з гэтага асяроддзя, мне было б вельмі цяжка жыць.

Немагчыма дакладна акрэсліць, хто ён сёння, Дарафей Фіёнік. Мо селянін, бо жыве ў Студзіводах, калісь усё ж вёсцы, сёння — раёне Бельска, і працуе на раллі. Мо ён — духоўны, бо закончыў

*(працяг на стар. 5)*

## Восем веравызнанняў

Ганна Кандрацюк

У Дубічах-Царкоўных жыхары пяці веравызнанняў: праваслаўныя, спасапраабражэнцы (зялёнасвянткоўцы), баптысты, іегавісты, каталікі.

— І атэісты ў нас ёсць, — дадае мясцовы бацюшка.

У самой гміне яшчэ большая рэлігійная разнавіднасць. Апрача вышэйназваных веравызнанняў існуюць яшчэ адвентысты сёмага дня, якіх у народзе называюць суботнікамі, і нерэгістраваная яшчэ група баптыстаў, прыналежная да Малінніцкага збору — *простакі*.

Анатоль Паўлоўскі, войт Дубіцкай гміны: — У нас, калі пра рэлігію, як у Амерыцы. Прыкладная дэмакратыя.

У Дубічах-Царкоўных і гміне **найбольш праваслаўных.**

— Няма ў парафіі вёскі, якая была б поўнасцю праваслаўная, — гаворыць бацюшка Славамір Ауксецяюк. — Ёсць толькі хутар Красьскоўшчына. Там усяго чатыры хаты і то адна ўжо пустая.

Праваслаўная парафія налічвае бязмала тысячу вернікаў. У саміх Дубічах 255 праваслаўных душ, з чаго практыкуе, гэта значыць прынамсі раз у год прыступае да споведзі, 161 асоба. Найбольш праваслаўных на Дубіччыне — гэта вёскі Грабавец і Елянка. Гэтая апошняя вёска славіцца і тым, што адтуль выйшла многа праваслаўных святароў. На тэрыторыі парафіі дзве царквы. Апошнім часам, па ініцыятыве Ганны Бандарук з Руткі, жыхары згаданай Елянкі пабудавалі на сваім могільніку стройную, новую царкоўку.

— У нядзелі наша царква запаўняецца, — кажа айцец Славамір.

Многа таксама дзетак і моладзі ўдзельнічае ў жыцці царквы. Адраджэнню праваслаўя спрыяюць заняткі

*(працяг на стар. 3)*

Катажына Аўсяйчук

## Быць беларусам

Хто я такі? Многія з нас ставяць перад сабою гэтае пытанне. Вядома, чалавек, уваходзячы ў дарослае жыццё, хоча ведаць адкуль яго карані, яго продкі, бо па-мойму нацыянальнасці немагчыма сабе выбраць. Нават калі хтосьці адчувае сябе японцам ці эскімосам, то што б ён не рабіў, ніколі ім не стане. Нацыянальнасці немагчыма выбраць, можна толькі да яе пачувацца або не.

Я ніколі не задумвалася чаму я беларуска. Мне ж так заўсёды гаварылі бацькі, а бацькам трэба верыць. Адкуль сягае мая памяць я чула дзве мовы: польскую і беларускую. Тады мне здавалася, што гэта звязанае з веравызнаннем. Бо калі я хадзіла ў царкву, значыць, я не палячка — палякі ходзяць у касцёл. Так я тлумачыла сабе сваю нацыянальную прыналежнасць, калі была малой дзяўчынкай. У пачатковай школе сем гадоў я вучылася беларускай мове, якая паказалася мне самай блізкай. Я заўсёды яе любіла і не было ў мяне ніякіх праблемаў з выказваннем сваіх думак на гэтай мове. Думаю, што ў гэтым вялікая заслуга маіх бацькоў, асабліва мамы, якая патрапіла памагчы мне зразумець, чаму я не палячка, а беларуска. Яна скончыла Бельскі беларускі ліцэй і хаця пасля не мела сувязі з беларускай моваі, яна дагэтуль дасканала ведае чыстую літаратурную мову. Выбар беларускага ліцэя пасля заканчэння пачатковай школы паказаўся мне зусім натуральным і бясспрэчным. І толькі ў гэтай школе я зразумела, што значыць „быць беларусам". Хаця папраўдзе не толькі школа мела на гэта ўплыў.

Чаму цяпер адчуваю такую сувязь з беларускім народам, яго культурай, мне цяжка выказаць гэта словамі. Гэта знаходзіцца ў глыбі маёй душы. Хаця мае продкі ад вякоў жылі ў Польшчы, яны былі беларусамі. Яны ніколі не выракліся свайго паходжання і ніколі гэтага не саромеліся. Чаму тады я павінна адчуваць сябе кімсьці іншым? Я з малых гадоў гавару на беларускай мове, у маёй хаце шануюць народныя традыцыі. Думаю, што асабліва ў сённяшні час, калі Еўропа імкнецца да аб'яднання, паасобныя народы не могуць забыцца пра сваю культуру і гісторыю.

Што для мяне значыць быць беларусам? Гэта цяжкае пытанне, асабліва сёння, калі ў Беларусі праходзяць сумныя падзеі. Праўду сказаўшы, цяжка быць беларусам. Мне проста сорамна за маіх землякоў. Што ж гэта за народ, які не хоча сваёй дзяржавы? Існуе та-

*(працяг на стар. 4)*

# Мы прачыталі

*Według talibów narzędziem szatana może być kobieta. Dlatego należy ją dokładnie zasłonić, zabronić chodzenia do pracy, prowadzenia samochodu. Kobieta została stworzona dla wygody i przyjemności męża — czyż więc może ją spotkać większe szczęście niż życie zgodne z przeznaczeniem? Bywają jednak niewiasty, które nie rozumieją szczęścia jakie je spotyka. Nie chcą wyglądać jak mumie. Dlatego, aby nie kusiły nikogo wyglądem, bije się je. Katuje się. Publicznie, oficjalnie, nie tylko za przyzwoleniem nowych władz, ale wręcz na ich wyraźne polecenie. W Afganistanie mężczyźni biją kobiety. Ściśle biorąc pobożni talibowie mężczyznami są w sensie fizjologicznym, gdyż mają wydłużoną cewkę moczową, ale chyba w żadnym innym.*

*U nas — jak zwykle — bezbożnictwo okropne. Nie dość, że kobiety bija się głównie po pijanemu i z powodów prywatnych, a nie z trzeźwą, obywatelską świadomością spełnienia obowiązku religijnego i ważnej misji społecznej, to jeszcze prasa pomaga szatanowi w czynieniu z kobiet jego narzędzia.*

*Wprost, nr 42*

* * *

*Waldemar Pawlak cieszy się coraz większym szacunkiem jako zdrowa część narodu.*

*Gazeta Wyborcza, nr 250*

* * *

*Zabijając, choćby z największym okrucieństwem psa, kota, czy konia Polak wie, że jest bezkarny. Ojciec, który w Białymstoku kazał kilkuletniemu synowi obcinać głowy szczeniakom, uznał to za najlepszą metodę wychowawczą, że z chłopca „wyrośnie prawdziwy mężczyzna". Mieszkanka Supraśla, która wrzuciła brzemienną sukę do rozpalonego pieca tłumaczyła, iż „suka należała do niej". Osiemnastolatek, który przybił do ściany w swoim domu kota i rozpruł mu nożem brzuch, został skazany na sześć miesięcy tylko dlatego, że przy okazji zranił nożem swego ojca. Ofiarą frustracji Polaków są coraz częściej zwierzęta. Polska rodzina naładowana jest agresją: serdeczność i ciepło zarówno w stosunku do bliźnich jak i do zwierząt nie jest postawą preferowaną. Nasz stosunek do zwierząt jest wyjątkiem w skali Europy.*

*Wprost, nr 43*

* * *

*Źródeł nieformalnego życia w koszarach jest wiele. Wśród nich niebagatelne znaczenie ma poczucie władzy, do której prawo nabywa nawet ostatni ciura, i to nie z tytułu zasług, lecz kalendarza. „Dziadek" może zrzucić z siebie dolegliwe obowiązki i przez kilka miesięcy faktycznie korzysta z posług żołnierzy młodszego rocznika. Fali sprzyja monotonia i nuda życia wojskowego.*

*Rzeczpospolita, nr 241*

А можа бы прывярнуць арміі „уланаў" і „гузараў". Было б намнога весялей!

* * *

*W Polsce można studiować bezpłatnie tylko na studiach dziennych i w uczelniach państwowych. Trzeba tylko zdystansować podczas egzaminu wstępnego od kilku do kilkunastu kontrkandydatów albo zdecydować się na kierunek niemodny, na przykład filologię białoruską, gdzie liczba chętnych nie wypełnia limitu miejsc.*

*Polityka, nr 43*

* * *

*Muzyka disco polo ma najwięcej zwolenników wśród osób mniej wykształconych: z wykształceniem podstawowym i zawodowym zasadniczym. Aleksander Kwaśniewski tańcząc przy muzyce disco polo zabiegało o głosy w czasie kampanii prezydenckiej, a jego rywal Waldemar Pawlak w rytmie disco polo prezentował swój program wyborczy. Disco polo ma najwięcej zwolenników wśród wyborców PSL (85%), SLD (74%), Akcji Wyborczej „Solidarność" (71%).*

*Gazeta Wyborcza, nr 250*

* * *

*Poglądy faszystowskie wyznają w Polsce niektóre partie polityczne. Ideologia „Polska dla Polaków", utrzymanie w czystości rasowej — to hasła, których wyznawcami wcale nie są skini, ani ludzie pokroju Tejkowskiego. Głoszą je osoby publiczne, jak i tzw. zwykli, porządni obywatele.*

*Wprost, nr 43*

* * *

*Powiada się o historii, że jest nauczycielką życia. W istocie historia uczy jedynie tego, że z historii niczego nauczyć się nie można. Nauki, które daje historia są jałowe, ponieważ — wbrew temu co się ciągle powtarza — w historii nic się nie powtarza. W historii powtarzają się jedynie pewne układy i schematy. Lecz w większości wypadków historia jest katalogiem samych premier. Historia jest fascynująca, ponieważ „to samo" nigdy w historii nie jest to samo. Identyczne sytuacje produkują w nowych wydaniach odmienne rezultaty. Gorliwi adepci historii uczą się jedynie sztuki samobójstwa. Np. Mikołajczyk do Stalina: — Lwów nigdy nie należał do Rosji. Stalin do Mikołajczyka: — Lwów nie należał, lecz Warszawa należała.*

*Polityka, nr 43*

Сталін, як відаць, таксама быў гісторыкам.

* * *

*Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка запрапанаваў, што пасля рэферэндуму ўсе дэпутаты аўтаматычна пераходзяць у новы парламент і ад таго часу пачнецца адлічваццa новы тэрмін іх паўнамоцтваў як і прэзідэнта.*

*Голас Радзімы, н-р 43*

Згодна з новым законам новыя прэзідэнцкія выбары адбыліся б такім чынам у 2003 годзе.

# З мінулага тыдня

**Польшча не згаджаецца** на падпісанне дамовы паміж НАТО і Расеяй перад прыняццем рашэння аб пашырэнні Паўночнаатлантычнага пакта, — заявіў прэм'ер-міністр **Уладзімеж Цімашэвіч** падчас візіту ў Гаагу. На яго думку, такое пагадненне было б прыктычным прысваеннем спецыяльных правоў Расеі. Заява кіраўніка польскага ўрада была рэакцыяй на паведамленне расейскага агенцтва Інтэрфакс, што генеральны сакратар НАТО **Хавер Салана** хоча як найхутчэй падпісаць пагаднене Расея—НАТО. Шэф НАТО абверг інфармацыю Інтэрфакса.

**Парламент — гэта сэрца дэмакратыі**. Ад біцця гэтага сэрца залежыць функцыянаванне дзяржаўнага арганізма, — сказаў старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Сямён Шарэцкі** падчас сустрэчы ў Брэсце з маршалкам Сейма **Юзэфам Зыхам**. Спікер беларускага парламента паіфармаваў Ю. Зыха аб палітычнай сітуацыі на Беларусі перад планаваным на 24 лістапада канстытуцыйным рэферэндумам. Маршалак Сейма ў сваю чаргу дэклараваў гатоўнасць падзяліцца польскім вопытам ад парламенцкай дзейнасці ў перыядзе дзяржаўнай трансфармацыі, а таксама выказаў зацікаўленне інтэнсіфікацыяй супрацоўніцтва паміж парламенцкімі групамі абедзвюх краін.

**У Варшаве** адбылася ўрачыстая нарада каманднага саставу Узброеных Сіл Рэчы Паспалітай, у якой удзельнічаў кіраўнік Праваслаўнага ардынарыята Войска Польскага генерал архіепіскап **Сава**. Сустрэчу ўзначаліў прэзідэнт РП **Аляксандр Квасеньскі** ў прысутнасці міністра абароны і сенацкай камісіі па справах абароны.

**У Польшчы** з поспехам прайшла выстава дасягненняў беларускай навукі. Сярод іншых свае работы дэманстраваў Інстытут фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў Акадэміі навук Беларусі. Яго звышцвёрдыя матэрыялы, штучныя крышталі выклікалі вялікую зацікаўленасць польскіх навукоўцаў. Зараз польскія даследчыя ўстановы аналагічнага накірунку вывучаюць умовы для заключэння кантрактаў як на набыццё матэрыялаў навуковых пошукаў беларускіх фізікаў, так і на сумесныя распрацоўкі.

**У Беластоку** пабываў намеснік старшыні Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта **Міхаіл Яўтух** — сустаршыня Польска-беларускай падкамісіі па справах міжрэгіянальнага супрацоўніцтва, які сустрэўся з віцэ-ваяводам **Гжэгажам Рыкоўскім** — сустаршынём згаданай камісіі з польскага боку. Мэтай сустрэчы была распрацоўка рэгламента падкамісіі і падрыхтоўка плана дзейнасці. „У перспектыве найважнейшай справай я палічыў бы стварэнне выгадных умоў для дзейнасці супольных прадпрыемстваў і падтрымку інвестыцый з польскага і беларускага бакоў", — заявіў беларускі госць. Падкамісія будзе займацца яшчэ абменам вопытам у галіне культуры, асветы і дзейнасці лакальных самаўрадаў.

**На дарозе Навасады—Гайнаўка** на паліцыянта, які вяртаўся са службы ў Гайнаўцы, напалі невядомыя злачынцы, адабралі ў яго грошы, табельную зброю ды некалькі дробных прадметаў і збеглі. Дагэтуль устаноўлена, што стаdepражу правапарадку скавалі рукі і ногі ды заклеілі рот два рускамоўныя мужчыны, якія падарожнічалі на аўтамабілі „Лада 2107".

**У Плянце** каля Гайнаўкі ў выніку траўмы загінуў 21-гадовы рабочы. Падчас разгрузкі з вагона штучных угнаенняў атрымаў ён удар па галаве чарпаком экскаватара.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Дэфініцыя беларуса** — паводле Сакрата Яновіча.
- **Як у сталіцы Чэхіі адкрывалі помнік Францішку Скарыне** — рэпартаж Аляксандра Краўцэвіча.

# Весткі з Беларусі

**Вяртанне да праваслаўя**

**В своём докладе перед участниками Первого Всебелорусского собрания я уже говорил о том, что мы сегодня живём во время бездуховности, разброда и шатания. Выход из этой непростой ситуации один — возвращение народу идеалов православия, идеалов добра и веры, воспитание молодёжи на христианских традициях, которые вот уже две тысячи лет определяют духовный и нравственный облик человечества. Именно христианские ценности смогут объединить наш народ и стать основой его духовного возрождения**,— сказаў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ў звароце да беларускага народа з нагоды Дня памяці, які адзначаўся ў Беларусі 2 лістапада.

**БНФаўскія Дзяды**

2 лістапада, на Дзяды, Беларускі народны фронт „Адраджэнне" арганізаваў у Менску пяцігадзіннае шэсце з удзелам каля 3 тысяч чалавек. Дэманстранты прайшлі 13-кіламетровым шляхам з-пад будынка КДБ (у якім у 1937-1941 гадах змяшчаўся НКУС) да могільніка ахвяр сталінскага генацыду ў Курапатах. Удзельнікі дэманстрацыі ішлі пад бел-чырвона-белымі сцягамі і пад гукі жалобнага звана. Неслі яны партрэты выдатных асоб у гісторыі Беларусі і антыпрэзідэнцкія лозунгі. На адным з транспарантаў было напісана: „Божа! Збаў нас ад Лукашэнкі!"

**Інвестыцыйнае агенцтва**

Усе беларускія банкі выказалі жаданне стаць фундатарамі Агенцтва па інвестыцыях — новай арганізацыі, якая хутка адкрыецца на Беларусі. Міністр знешнеэканамічных сувязей Міхаіл Марыніч лічыць, што нацыянальнае агенцтва па інвестыцыях стане структурай, якая дапамажа аднавіць давер да Беларусі. Сёння існуе неабходнасць удасканалення дагаворна-прававой базы Беларусі з іншымі краінамі свету. Беларусь падпісала 20 двух- і шматбаковых інвестыцыйных пагадненняў, апошняе з іх — з Чэхіяй. Цяпер рыхтуюцца да падпісання аналагічныя дакументы з Грэцыяй, Іспаніяй, Егіптам і Карэяй.

**Пракурорскі візіт**

У Пракуратуры Рэспублікі Беларусь прабывала з візітам дэлегацыя Генеральнай Пракуратуры Польшчы. Асноўная мэта візіту — наладжванне двухбаковых кантактаў і аказанне дапамогі польскай пракуратуры ў вышуку і ўстанаўленні лёсу палякаў, рэпрэсіраваных савецкімі органамі дзяржбяспекі ў 1939-1941 гадах.

**Сустрэча спікераў**

29 кастрычніка ў Брэсце адбылася сустрэча старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага з маршалкам Сейма Польшчы Юзэфам Зыхам. Гэта ўжо другая сустрэча абодвух спікераў — першая прайшла ў чэрвені ў Нараўцы. Кіраўнік Сейма Юзэф Зых назваў разумнай і адпавядаючай духу еўрапейскай бяспекі ініцыятыву прэзідэнта Беларусі і Вярхоўнага Савета аб стварэнні ў цэнтры Еўропы бяз'ядзернай зоны. Кіраўнікі парламентаў абмеркавалі таксама пытанні развіцця міжпарламенцкага супрацоўніцтва і праблемы палякаў у Беларусі і беларусаў у Польшчы.

**Дапрацоўка гісторыі**

Пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Уладзіміра Русакевіча адбылося чарговае пасяджэнне дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадскай сферы. Камісія разгледзела прапановы грамадазнаўчай і філалагічнай секцыі аб рэкамендацыі да выдання васьмі рукапісаў падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. Пасля дэталёвага і ўсебаковага абмеркавання прынята рашэнне выдаць сем падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. Рукапіс вучэбнага дапаможніка па гісторыі Беларусі для XI класа агульнаадукацыйнай школы накіраваны на дапрацоўку.

**Неадэкватныя паводзіны**

1 лістапада прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сваім указам вызваліў генерал-лейтэнанта Леаніда Мальцава ад пасады міністра абароны за праступак, які дыскрэдытуе воінскае званне афіцэра. Падставай для такога рашэння ў кіраўніка дзяржавы паслужылі неадэкватныя паводзіны Леаніда Мальцава, выкліканыя станам алкагольнага ап'янення на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 75-годдзю Менскага медыцынскага інстытута. Выконваючым абавязкі міністра абароны прэзідэнт назначыў генерал-лейтэнанта Аляксандра Чумакова — начальніка Галоўнага штаба Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

# Восем веравызнанняў

*(працяг са стар. 1)*

па рэлігіі ў школе, дзе Айцец Славамір і матушка Ева навучаюць гэтаму прадмету. На парафіі служаць яны з канца 1995 года. У сям'і святара двое дзетак: дзяўчынка і хлопчык. Сям'я ўтрымоўваецца з парафіі і настаўніцкай працы. Варта адзначыць, што дубіцкі святар — пастаянны падпісчык „Нівы".

— З іншаверцамі ў нас няма кантактаў, — гаворыць матушка Ева, — хаця жывем дружна, як суседзі. Ад баптыстаў Скаваротках, на той прыклад, — кажа матушка, — дастаем малако. За тое, што пасуць кароў на царкоўным пляцы.

**Найгорш іегавістам**

— кажа земляроб Ежы Гіль. — Нас нідзе не шануюць, ва ўсім свеце, — пераканаты мой субяседнік. Сведкам Іеговы стаў ён у 70-ыя гады.

— Тады то яшчэ горш, як цяпер, было. Камуністы ганялі! Аднойчы ў Крывятычах я прапаведаваў, — успамінае тыя гады спадар Гіль, — то міліцыянт, згледзеўшы мяне, прыхаваўся ў гаспадара і пазней выскачыў з пакоя. Кажа ён тады да мяне: „Ты, дзядзька, чытаць лепш навучыся" і адстаў, не аштрафаваў. Але сын за веру ў турме сядзеў. Замест войска.

У Дубічах-Царкоўных шэсць іегавістаў. Каралеўская зала, як называюць свой дом малітвы, знаходзіцца ў Гайнаўцы. Іегавісты святкуюць паводле свайго календара, які розніцца ад хрысціянскага. Няма таксама ў гэтым веравызнанні святара. Найбольшым і адзіным аўтарытэтам тут Ісус Хрыстос. Найпершым абавязкам іегавіста з'яўляецца прапаведаванне сваёй веры.

— Людзі гавораць, што мы за грошы, — хвалюецца спадар Гіль. Ён разам з жонкай цяжка працуе на бацькоўскай зямлі.

— Часам нават знаёмыя папікаюць, што вера наша кацячая, што мы бязглуздыя людзі, смецце, — наракае мой субяседнік.

Іншае думкі дубічанка, пані Валя, праваслаўная:

*— Еговы, то найлпшы ў нас людэ,* — кажа яна пра суседзяў іншаверцаў.

**Баптысты прыкладныя**

ў нас, — кажа войт Анатоль Паўлоўскі. — Не п'юць, працавітыя, спакойныя.

Збор баптыстаў у Дубічах існуе з 1927 года. Зараз зарэгістравана там 30 асоб. Членамі збору становяцца свядома ахрышчаныя вернікі. Дом малітвы — збор, знаходзіцца ў вялікім, драўляным, двухпавярховым будынку. Там таксама пражываюць кіруючыя дубіцкім зборам пастар Анатоль і ягоная жонка Вольга Скаваротці. На службе ў Дубічах яны ўжо дванаццаць гадоў. У сям'і шасцёра дзяцей. Жывуць з гаспадаркі. Аня і Давід, вучні пачатковай школы, выдатнікі па беларускай мове.

— Бо мы ж таксама беларусы, — гаворыць Вольга Скаваротка. — Муж з Брэстчыны, а я з Падляшша.

Дубіцкія баптысты моляцца на расейскай мове.

— Маладыя ўжо хочуць па-польску, — гаворыць А. Скаваротка.

У баптысцкім дубіцкім зборы карыстаюцца часам і Бібліяй на беларускай мове. Але вяскоўцы аддаюць перавагу расейскаму перакладу Бібліі. Да гэтага збору належаць таксама вернікі з Тафілаўцаў і Чэхаў-Арлянскіх.

— Усе мы жывем як адна сям'я, — кажа спадарыня Вольга. — Калі нехта адсутнічае на службе, то ўсе ім цікавяцца, ці не захварэў гэты чалавек часам.

На Дубіччыне

**найменш католікаў.**

Доўга прыгадвалі мае інфарматары мясцовых католікаў.

— Быў адзін у Тафілаўцах, — гаварылі, — але і гэты ў баптысты перайшоў.



*Царква ў Дубічах-Царкоўных.* Фота Юркі ГАЎРЫЛЮКА

Усё ж такі пашчасцілася мне пазнаёміцца з адзінай на ўсе Дубічы каталіцкай сям'ёй, спадарствам Скорскімі. Пані Часлава Скорская — настаўніца польскай мовы, яе муж — паліцыянт на пенсіі.

Пані Часлава зжылася з людзьмі, асяроддзем.

— Тут людзі талерантныя, адкрытыя, шануюць іншаверцаў.

Пані Часлава родам з-пад Сухаволі. Вельмі падабаюцца ёй беларускія песні.

— Калісьці завезла я гэтыя сваім сваякам, тым з-пад Сухаволі. Хай і яны паслухаюць, — думала. — Але там не надта цікавіліся беларускімі песнямі.

— Nie wiem dlaczego? — задумоўваецца мая субяседніца. — Może dlatego, że stamtąd tak dużo księży?

Пані Часлава Дубіччыну ўжо лічыць сваёй айчынай. Часам заходзіць у царкву памаліцца Богу.

— Bóg przecież jeden, — аргументуе яна.

**Спасапраабражэнцы**

званыя ў народзе пяцідзесятнікамі, маюць на Дубіччыне ці не найбольш перспектыўную сярод новых рэлігій будучыню. Тут 66 дарослых вернікаў і многа малых, яшчэ не ахрышчаных дзетак і моладзі. Да збору належаць вернікі з Рудутаў, Карыціск, Грабаўца, Елянкі, Чэхаў-Арлянскіх, Тафілаўцаў, Руткі. Некаторыя баптысты прымаюць удзел таксама ў набажэнствах спасапраабражэнцаў. Гэтыя пратэстанцкія рэлігіі найбольш сабе блізкія. Дом малітвы знаходзіцца ў Дубічах. Кіруюць ім Станіслаў і Ірэна Наўроцкія. Гэтае веравызнанне прыехала на Дубіччыну з Расеі, разам з вяртаннем бежанцаў. Дзед спадарыні Ірэны, жыхар Чэхаў-Арлянскіх, быў адным з першых прапаведнікаў гэтага веравызнання. Мая субяседніца, выпускніца гайнаўскага беларускага ліцэя. Яна таксама выкладае беларускую мову ў мясцовай школе. Пастар Станіслаў Наўроцкі, родам з Яроціна. Дадаткова працуе ён кіраўніком магазіна ў Гайнаўцы. У сям'і адна дачушка. У час багаслужбы дубіцкія спасапраабражэнцы, як і тутэйшыя баптысты моляцца на рускай, польскай і беларускай мовах.

— Тут людзі не мяшаюць нам маліцца, — гаворыць спадарыня Ірэна, — рэлігія ў нас гэта асабістая справа кожнага чалавека.

У нас

**як у Амерыцы**

— пацвярджаюць амаль усе інфарматары, згоднае, талерантнае існаванне рэлігійнай разнавіднасці. Дубічы гэта цікавая гміна. Тут як у адзінай беларускай мясціне існавала „Салідарнасць". У парку захаваўся помнік савецкаму партызану.

— У нас людзі любяць *ружнароднасць*, — гаворыць пані Валя, працаўніца гміны. — Чаму адыходзілі ад праваслаўя? — паясняе пані Валя. — У Дубічах праз трыццаць гадоў быў адзін бацюшка. Людзі знеахвоціліся такой аднавіднасцю. Пані Валя пераканана, што зараз праваслаўе ўмацоўваецца.

— Цяпер у нас бацюшка малады і прыгожы. І такі ж псаломшчык. І ў Гайнаўцы пачалі маладых вучыць царкоўнаму пенню. Хаця, — кажа пані Валя, — добра калі людзі вераць па-рознаму. Усе тады больш цікавяцца сваім веравызнаннем.

**Ганна Кандрацюк**

# Пашкадавалі п'яніцу

Некалькі гадоў таму ў адным з нашых мястэчак здарылася наступная гісторыя. Маладое сужонства ехала на сваім амаль новым „Паланезе", калі нечакана заехаў ім дарогу нейкі грузавы „Стар". Пасажырам „Паланеза", на шчасце, нічога не сталася, аднак кузаў іхняй машыны быў моцна пашкоджаны. Выбраліся яны з яго і кінуліся на вадзіцеля „Стара", які хістаўся на нагах і нясло ад яго гарэлачным перагарам. Нікога на вуліцы ў тую восеньскую вячэрнюю пару не было, аднак неўзабаве з'явілася побач маладая жанчына, як высветлілася, жонка п'янага шафёра; яна з мужам жыла праз вуліцу. Пацярпеўшыя хацелі падацца на найбліжэйшы пастарунак паліцыі, каб сторажы парадку ўстанавілі віноўніка пашкоджання, які вярнуў бы прычыненую ім страту. П'яны шафёр, а асабліва яго жонка, давай прасіць-маліць іх, каб тыя не ішлі на паліцыю: „Вы ж праваслаўныя, добрыя людзі, даруйце майму мужу, хаця ён і п'янаваты. Ад яго ж забяруць вадзіцельскія правы, пасля будзе суд або калегіум і мы астанемся без хлеба. Мы тут спішам дагавор і хутка вернем прычыненыя вам страты."

Уласнікі разбітага „Паланеза" пашкадавалі п'яніцу і падаліся ў яго хату. Гаспадыня прышыкавала смачны пачастунак, у ходзе якога спісалі дагавор, дзе шафёр „Стара" абавязаўся вярнуць усе спрычыненыя ім затраты. Падзякам не было канца: „Вы, праваслаўныя, найлепшыя людзі, паслухалі нашай просьбы; да самай смерці не забудзем вашай дабрыні і праз некалькі дзён ваш аўтамабіль будзе быццам новы", — усёй душою запэўнівала жонка п'янага шафёра. Развіталіся як сваякі.

Здавалася, што ўсё ў парадку — дагавор жа ёсць. Чакаюць маладыя дзень, другі, трэці. Цішыня аднак, ніхто не прыходзіць ні ладзіць „Паланез", ні плаціць за яго. Тады ахапіла іх нецярплівасць дый паехалі яны да „сваякоў"; тыя акурат вячэралі. Давай іх пытаць, чаму нічога не робяць з разбітым аўтамабілем, забавязаліся ж... А тыя „сваякі" на іх: „Мы вас не знамы, вон з хаты, кацапы!" Лаянкам здавалася не быць канца.

Пакрыўджаныя на наступны дзень падаліся ў пракуратуру, расказалі, як усё было і паказалі дагавор. Там прачыталі яго, пакруцілі галовамі і сказалі: „Наіўныя вы людзі, бо кавалак паперы, хаця ён і называецца дагаворам, гэта ніякі доказ, каб шафёра „Стара" прыцягнуць да адказнасці. Трэба было адразу пасля выпадку падацца на паліцыю, тады і справа мела б другое цячэнне".

Вось і навучка ўсім: не шкадаваць п'яніцы, які сядае за абаранак!

**Мікалай Панфілюк**

# Марнатраўства

Надта хутка ў сродках масавай інфармацыі ў Польшчы адспявалі рэквіем для сацыялістычных метадаў гаспадарання. Аднак аказваецца, што яны жывыя таксама ў капіталізме ды нават развіваюцца ў ім. Вось, напрыклад, вуліца Браніцкага (раней Леніна) ў Беластоку. Пры канцы верасня нехта прыдумаў правесці мадэрнізацыю гэтай транзітнай дарогі, якая дазваляла даволі спраўна перамяшчацца аўтамабілям з цэнтра Беластока ва ўсходнія яго кварталы, а таксама за межы горада. Невядома чаму рамонт пачалі ад змены бетоннай грані вакол паласы, якая раздзяляе дзве маставыя з аднабаковым рухам. Адначасова пры скрыжаванні з вуліцай Цыялкоўскага пачалі ўзмацняць асфальт. Месяц пасля, калі працы набліжаліся да канца, толькі што пакладзеныя грані маставой і асфальт пачалі зноў разбураць, капаць нейкія равы ці каналы.

Ніхто не ведае, калі вернуць нармальны рух па гэтай вуліцы. Адну яму засыпаюць, другую капаюць і так без канца. Чэргі аўтамабіляў з цэнтра і ў цэнтр горада поўзаюць з хуткасцю чарапахі. Тоны бензіну згараюцца стоячымі аўтамабілямі і ўзбагачаюць выхлапнымі газамі беластоцкае паветра. Цікава толькі, хто плаціць за халастую працу і матэрыялы, якія марнуюцца, як „за Герка". Напэўна не выканаўца са сваёй кішэні, а хутчэй падаткаплацельшчыкі.

**(ям)**

# Манія важнасці

Гартаючы ў Беластоцкім дзяржаўным архіве дакументы Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку з апошніх гадоў яе існавання, можна знайсці там адказы на большасць пытанняў, кранаючых сучасныя праблемы нашай грамадскасці.

Першае, што заўважаецца пасля прачытання архіўных матэрыялаў, гэта тое, што польскія таварышы так у сапраўднасці непасрэдна не займаліся тутэйшымі беларусамі, пакідаючы іх актывістам праваслаўнага паходжання. Кожная кіруючая група мела поўны давер да „нашых хлопцаў", якіх адданасць „вядучай сіле народа" была бязмежная і кожную яе волю гатовы былі яны рэалізаваць вокамгненна. Партыйныя дзеячы беларускага паходжання ніколі не сумняваліся ў тым, што рабілі, былі шчыра пераканаы, што безупынна ўдзельнічаюць у працэсе пераўтварэння свету на больш дасканалы.

Другая характэрная прыкмета беларуса, якому ўдалося вырвацца вышэй пасрэднасці, гэта імкненне да таго, каб усе заўважылі незвычайнасць яго становішча. Адначасова ўва ўсіх нашых „выдатных" выступала як бы чаканне пакорлівасці з боку акружэння для іх велічыні.

Трэцяя прыкмета нашых элітаў гэта тое, што сваю кар'еру стараліся рабіць, кампраметуючы, знішчаючы найчасцей людзей такіх самых як яны, палякам вызначаючы ролю суддзяў. Самазнішчэнне сярод нас мела і мае невычарпальную сілу. У гэтым ціхім змаганні беларуса за павышэнне свайго прэстыжу амаль ніколі не выкарыстоўвалася адкрытая крытыка. Найчасцей кампраметаваная асоба нічога не ведала, што адбываецца за яе спіною.

Найгоршая аднак была поўная адсутнасць пачуцця якога-небудзь нацыянальнага інтарэсу. Кожная нікчэмнасць дапускалася першымі асобамі нашага грамадства, калі толькі адкрывала яна дарогу да ўплываў, прызнання з боку таварышаў, вышэйшага паста ці большых грошай. Побач жадання асабістага поспеху інтарэс нацыі не меў ніякага значэння.

Пры такой псіхічнай канструкцыі элітаў беларускага паходжання, кожная ўлада магла выкарыстоўваць іх паводле сваіх патрабаванняў, што ў сямідзесятых гадах прывяло нашых хлопцаў да дасканаласці ў дэманстраванні адначасова крайніх форм польскага патрыятызму, адданасці „ідэі пралетарскага інтэрнацыяналізму", а нават, калі партыя патрабавала, захаплення мовай і фальклорам беларускага люду.

У другой палове васьмідзесятых гадоў, у выніку палітычных і ідэалагічных пераўтварэнняў у верхніх эшалонах улады ў Польшчы, наступіла поўная разгубленасць сярод нашых выдатных людзей. Некаторыя, згодна з логікай — быць найбліжэй „вядучай сілы" — шукалі нават шчасця ў радах „Салідарнасці", але гэтае асяроддзе аказалася ім зусім чужое і незразумелае. Такіх клопатаў не мелі польскія таварышы, якія беспраблемна пераўтварыліся ў нацыянальна-каталіцкіх актывістаў. Нашы гадамі шукалі дарог самавызначэння. Адны прайшлі шляхам ад ваяючага атэізму да прапагандыстаў праваслаўя, другія сталі рускімі, іншыя — прыхільнікамі беларускасці. Пасля пару гадоў разгубленасці ўсё як бы вярнулася да „нармальнасці". Асноўныя прынцыпы і ўзоры захавання нашых выдатных людзей з сямідзесятых гадоў працягваюцца, але ўжо ў іншых формах. У новых палітычных умовах з'явіліся новыя лозунгі, новая тэрміналогія, а камсамольская прагрэсіўнасць дэманструецца ў дэмакратычнай упакоўцы. Нідзе толькі не падзеўся сіндром вольнаадпушчаніка, чалавека, якога імпазантная энергія заўсёды накіравана была на ўваход у найвышэйшыя структуры цывілізацыі, якая стварыла яму ілюзію паўнацэннасці.

Капіталізм спрыяе індывідуалізму. Славалюбівыя людзі могуць без ніякага ханжаства рэкламаваць свае незвычайныя прыкметы, аб'яўляць пра дасягненні і заслугі. У беларускім асяроддзі працэсы гэтыя падвяргаюцца павелічэнню. Усялякая дзейнасць людзей, дакранутых пачуццём сваёй незвычайнай цэннасці, мае ў вачах іх самых рэвалюцыйны характар. Усё, што робяць, стараюцца паказаць як нешта новае, арыгінальнае, авангарднае, хаця па сутнасці паўтараюць невядома каторы раз тое, што ўжо было, вядомыя жэсты, рэфлексы, тэатральнае перажыванне беларускасці. Усе, якія не прызнаюць дэманстраванай глыбіні гэтых перажыванняў і форм іх выяўлення, згодна з логікай рэвалюцыянераў, называюцца здраднікамі. Невядома чаму ці каму здрадзілі, але самое акрэсленне ёсць даволі асаблівае і прытым добра ўзмацняе самаадчуванне сённяшніх „авангардыстаў", як змагароў за „адзінаслушную" справу. Найбольш сумнае, што ўсё гэта адбываецца не паводле прынцыпаў нейкага культурнага ці грамадскага руху, а хутчэй рэлігійнай секты, з захаваннем традыцыйных адносін паміж „гуру" і яго вучнямі. У сітуацыі маланкавага скарачэння беларускасці на Беласточчыне выглядае гэта даволі жаласна. Прарок Ілья з Грыбоўшчыны мог прынамсі прабаваць пабудаваць лепшы свет, маючы пры сабе тысячы вернікаў. Сучасны гратэск адбываецца з удзелам толькі некалькіх асоб. Добра, што прынамсі ён незаўважальны для вонкавага свету.

**Яўген Міранові ч**

# Быць беларусам

*(працяг са стар. 1)*

кая „нібы-Беларусь", у якой сапраўдныя беларусы — меншасць. Беларусы адчуваюць сябе горшымі ў сваёй дзяржаве, хацелі б быць расейцамі. Беларусы ў Польшчы хочуць стаць палякамі. Ці такі народ мае магчымасць існаваць надалей?

Яшчэ адна прычына гэтага асіміляцыйнага імкнення беларускага народа гэта стэрэатыпы, якія існуюць у свядомасці людзей. Беларус, паводле іх, гэта бедны селянін у лапцях і саламяным капелюшы. Беларуская мова ў Беларусі — гэта мова сялян. Людзі саромяцца на ёй гаварыць.

Яшчэ больш абураюць мяне палітычныя падзеі ў гэтай псеўдадзяржаве. Цяжка мне паверыць, што народ выбраў прэзідэнтам чалавека, які не ўмее гаварыць на дзяржаўнай мове і ўжо на пачатку сказаў, якая мэта яго палітыкі. Чаму гэты народ згадзіўся знішчыць народныя сімвалы? Большасць народаў імкнецца да самастойнасці, за незалежнасць праліваюць кроў, а беларусы... дык яны наадварот. Гэта паказваецца мне нейкім дзівам, нелагічным дзеяннем. Калі ўсе ідуць уперад, беларусы ідуць узад.

Падзеі ў Беларусі заўсёды мяне хвалююць. Яны мне чамусьці неабыякавыя. Цяжка глядзець на ўсё гэта, калі ведаеш, што нічога немагчыма зрабіць. Хацелася б крычаць да гэтага народа: „Людзі, апамятайцеся! Што робіце?"

У мінулым годзе я пабывала ў Катавіцах на Геаграфічнай алімпіядзе. Там я пазнаёмілася з моладдзю з усёй Польшчы. Калі яны даведаліся, што я — беларуска, пачалі цікавіцца нашай мовай, культурай. Я зусім не адчувала сябе кімсьці горшым, таму што яны не трактавалі мяне як кагосьці горшага, а мая „іншасць" іх цікавіла.

А ў маёй роднай старонцы? Тут я чамусьці адчуваю сябе намнога горш. Палякі трактуюць тут беларусаў як людзей другой катэгорыі. Навокал столькі неталерантнасці, нацыяналізму, шавінізму, які пераходзіць нават у фашызм. Цяжка ў такіх умовах прызнацца да сваёй іншасці. Я ведаю людзей якія „дасталі ў лоб" за тое, што гаварылі на беларускай мове. На жаль, гісторыя любіць паўтарацца. Пасля вайны польскія банды палілі і грабілі беларускія вёскі на Беласточчыне, забівалі людзей толькі за тое, што яны беларусы. Ці і ў наш час існуе такая пагроза? Што ж, цывілізацыя ідзе надалей уперад, але людзі не мяняюцца. Адкуль у людзей, якія заўсёды жылі разам, столькі гневу, пагарды, нянавісці? Адны ад другіх не мелі ніякай крыўды. Чаму так цяжка зразумець, што мы ўсе людзі, у нас розум, інтэлігенцыя, правы на спакойнае жыццё? А можа трэба людзей, як жывёлу, замыкаць у асобных клетках, бо інакш пазабіваюцца?

Калі я пачала вучыцца ў Бельску, мяне зацікавіла адна рэч: на сценах і мурах гэтага горада пераважалі графіці на беларускай мове. Чаму так? Мне здаецца, што не таму, што сярод беларусаў больш вандалаў, а таму, што гэта адзіная форма выказання таго, што ляжыць на душы. Паляк можа стаць на сярэдзіне рынку і крыкнуць хто ён. Людзі падумаюць, што можа ён п'яны. Але калі штосьці такое зробіць беларус, то людзі будуць гаварыць, што ўсе беларусы гэта не толькі п'яніцы, але ў іх „не ўсе дома".

Школа. Мой ліцэй гэта не толькі будынак, гэта перад усім людзі, людзі розныя. Настаўнікі стараюцца, каб мы не забылі аб беларускасці, а моладзь, дык яна заўсёды робіць наадварот. Можа не ўсе, але напэўна многія. Аднак ёсць у гэтай школе „дух"; я яшчэ не ведаю, што гэта такое, але сапраўды штосьці ёсць. Не ўсе яшчэ гэта заўважылі, але калісьці, можа калі прыйдзецца жыць дзесьці далёка адсюль, яны затужаць.

У сувязі з маімі разважаннямі аб школе, мне прыходзіць яшчэ адна рэфлексія. На сілу нікога беларусам зрабіць немагчыма, але большасць беларусаў і без сілы выракаецца сваёй беларускасці ці тут у Польшчы, ці ў Беларусі. Яны выракаюцца сваёй нацыянальнасці, як апостал Пётр выраксяХрыста, калі певень заспяваў тры разы.

Нягледзячы на гэта ўсё я надалей адчуваю сябе беларускай. Я не саромеюся сваёй іншасці таму, што іншы не значыць горшы. А мая Радзіма, дзе яна? Ну што ж: „тая" Беларусь з Менскам гэта для мяне амаль чужая дзяржава. Мая айчына тут. Гэта сапраўдная бацькаўшчына, спадчына. Гэтая зямля, дзе я нарадзілася, дзе жыву, гэта „мая Беларусь". Яна блізкая, дарагая, тут мне знаёмы кожны кут. Не Польшча, не Рэспубліка Беларусь, а ўсходняя Беласточчына — гэта мая Радзіма.

**Катажына Аўсяйчук**
**вучаніца IV „ц" кл.**
**Бельскага беларускага ліцэя**

**Ад рэдакцыі:** Артыкул Катажыны Аўсяйчук лічым найбольш дасканалым аналізам пошукаў свае тоеснасці маладым чалавекам. Хаця рэчаіснасць, якую прадстаўляе Кася ў сваіх разважаннях, даволі сумная, аднак адчуваецца ў нашай аўтаркі з Бельскага беларускага ліцэя „дух", які дазваляе з аптымізмам глядзець у будучыню. Заахвочваем усіх маладых людзей да дыскусіі вакол праблемаў, закранутых у вышэйзмешчаным артыкуле.

# Яшчэ пра д-ра Грабінскага

„Ніва" (№ 41 ад 13.10.1996 г.) змясціла артыкул Сяргея Ёрша пра Баляслава Грабінскага. Гэта настолькі цікавая асоба, што перад усім звязаная з Беласточчынай. Аўтару, на жаль, невядомая даваенная дзейнасць Б. Грабінскага, калі піша: „не займаўся палітыкай, бо ведаў, што кожны павінен займацца сваёй справай". Аказваецца, аднак, што было інакш.

Баляслаў быў сынам селяніна. Скончыў спярша прыхадскую школу ў Дуброве-Беластоцкай. У 1911 г. паступіў у расейскую гімназію ў Гародні, дзе адразу стаў членам гуртка беларускай моладзі і актыўна ўдзельнічаў у культурна-асветнай працы. У сувязі з выбухам I сусветнай вайны гімназія перанеслася ўглыб Расеі, а Б. Грабінскі вярнуўся ў родную вёску Урачыншчыну і займаўся земляробствам.

У 1918 г. паступіў ва ўрадавую гімназію ў Гародні. Пасля яе заканчэння паступіў на медыцынскі факультэт Віленскага універсітэта. У 1926 г. быў запрошаны на пасаду асістэнта пры кафедры анатоміі лекарскага аддзялення.

Яго палітычная дзейнасць звязана была з Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй. На з'ездах выбіраўся ён у склад яе Цэнтральнага камітэта. Таксама ад гэтай партыі балаціраваўся ён у 1928 г. на парламенцкіх выбарах са спіска Блока нацыянальных меншасцей у Віленскай акрузе. Быў на другім месцы. На першым месцы кандыдаваў, таксама доктар, Якуб Выгодзкі, ведамы ў Вільні ў той час яўрэйскі дзеяч. І гэта яму якраз выпала месца ў польскім Сейме.

Д-р Б. Грабінскі дапамагаў беларускім студэнтам і арганізацыям, а зубы ў яго лячыў між іншым Мацей Канапацкі.

Пра Баляслава Грабінскага ўпершыню я пачула ад Вітаўта Стаповіча, братанка Казіміра Сваяка і Альбіна Стаповіча, які нарадзіўся ў Вільні ў 1939 г. Яго хросным бацькам быў менавіта Б. Грабінскі. Як успамінае В. Стаповіч, відаць ён сябраваў з яго бацькамі, калі ўзялі яго ў кумы. Калі Б. Грабінскі быў у Амерыцы, маці Вітаўта ў 60-я гады наладзіла сувязь з ім і шмат гадоў пісалі сабе пісьмы, якіх частка захавалася па сённяшні дзень. Калі В. Стаповіч жаніўся, ад хроснага бацькі атрымаў у падарку 50 долараў. На жаль, бацькі Вітаўта даўно не жывуць ужо: бацька Ян памёр прыехаўшы пасля II сусветнай вайны ў Польшчу. Вітаўт успамінае, што маці таксама кантактавалася з сям'ёй першай жонкі Б. Грабінскага, якая жыве недзе ў Польшчы.

**Лена Глагоўская**

# Як ні дзіва, я тутэйшы…

**Усім, хто бярэ ўдзел у маім лёсе — дзякуй! Але, думаю, гэта ня толькі мая справа — справа № 182. Гэта толькі фрагмэнт нашай агульнай справы — сапраўды змаганьня за сапраўды свабодную Беларусь!**

„Паэт **Славамір Адамовіч**, які сядзіць у следчым ізалятары КДБ за верш „Убей президента", апублікаваны ў віцебскай газеце „Выбар", спыніў сухую галадоўку, прыняў адваката і пачаў падрыхтоўку да суда" — паведамляла „Наша ніва" ў ліпені г.г. Не знойдзеш у тым вершы, якога прэзідэнта заклікае знішчожыць паэт (адкуль было вядома сашкам, што якраз ён, Адамовіч?), які брыдка і нахабна тапырыць вусы над сваім народам. Следчы задаваў яму м.ін. пытанне, чаму гэта „ў нас", г.зн. у шэрагах БНФ і тых, хто супраціўляецца рэжыму, так многа псіхічна ненармальных. Бо хто нармальны надумаецца ісці супраць ідучых *уплоць* „левай".

Беларусі трэба ігрышч. Патрэбная нейкая ахвяра. Нейкі ерэтык павінен засквірчэць на кастры, каб іншым адхацелася быць іншымі. Фігура найлепш каб была адпаведная *кесару*, што па-буфонску тапырыць вусы і выдае загады; такая ж надзьмутая і дэманічная. Грукае паэт гранатамі,

**вострыць лязо нажа**

і засоўвае яго за халяву афіцэрскага бота. Галоўны тэрарыст. Каб было чым палохаць *юных дзеў*. Дробнатвары і нізкарослы ісусік, якому да твару была б смешная карона з дурнап'яну, кароль беларускіх псіхаў, якому можна паставіць пытанне наконт нармальнасці ў шэрагах абаронцаў Бацькаўшчыны. Маленькі лютэр, які з грукатам прыбівае на вароты айчыннага хлява, поўнага зласлоўя і нянавісці верш-трактат. Галоўны анархіст і тэрарыст, адналькава вялікі, як і дыктатар. Кіраўнік партыі, якой няма, але павінна быць, бо калі збярэцца, можна пра яе разгон апавясціць разгубленаму народу. Страшныя яны абое. І ён, народ, які даў сябе звязаць.

Дзе шукаць ратунку? Дзе мужчыны, якія павінны ісці супраць чорнае ганьбы? *Мужчыны нашы палі духам даваньня. Ня могуць яны больш бараніць народ свой. Ня могуць, няшчасныя, заступіць дарогу водам мора чужынскага. У пустэльні пяскоў, імкнучых з усходу, патанаюць іх корды. У плазьме атрутнай, што з заходу льецца замёрлі іх душы. Гора ім, мужчынам нямужным і слабым! Гора народу, які сваёй ганьбы ня бачыць! Зьлітуйся, Дзева!* — звяртаецца Славамір Адамовіч у „Літаніі, альбо Запрашэньні Дзевы на Беларускі Пасад". Народ гатоў усё зрабіць каб пацешыцца, не бачыць панавання валадара імперыі, якая трашчыць у швах і гніе ва ўсіх правінцыях, ён навучыўся ў свае краіны „самаедства" і прагі да ігрышч. Што яму ісусік — ні п'е, дык хай не п'е, а калі есці не хоча, дык нам больш каўбасы будзе! „Ета ж яво дзела!" А калі нават на аднаго *пісацеля* менш будзе — дык хто іх цяпер чытае! Нават „Кнігарня пісьменніка" ў Менску адмахваецца ад свежых беларускіх кніжак! „Что іщчо нада?!" Нашто ім

**зямля абетаваная Ханаан?**

Добра, што дажыліся да касцюма, абнасіўшы ватоўкі. Годзе пісаць пра Мову і Айчыну, нядаўна паэтам Прэзідэнт кінуў 17 кватэр, каб мелі дзе *сачыняць* оды. Хай там паэты пацыху плодзяцца і пішуць *што нада*. А ён, Паэт? Ну, калі так хоча, дык няхай сачыняе ў V паліклініцы КДБ! Пра сваю вялікую каханку і

**заліты спермай ложак**

самотнага па ўласнай віне пярэваратня-паяца. Анатоль Сыс, са сваёй магутнай постаццю і голасам, калі б і стаў чужой ахвярай, не мог бы быць такім святым ерэтыкам. Але саладкаватвары, цацачна-пяшчотны Славамір Адамовіч, у вяночку са шматкоў брудней ад ночы з няшлюбнай чужой жонкай прасціны, які кліча Дзеву на Пасад Беларусі, каб уратавала і дала шанц рэваншу, гэта постаць, якую сапраўды ачмурэлы старэйшы брат можа захацець убачыць як сімвал „ненармальных", якія хочуць павярнуць гісторыю назад, а пахнуць брыдка, зусім не даспадобы прававерваму, чыстаму маральна беларускаму народу. У яго іканаборстве і драпежным смеху, які раздзірае душу, усе бачаць ратунак. Яго смех — „смех суккубаў" — патомкаў ведзьмы і д'ябла, пярэваратняў і нячысцікаў, ён павінен ачысціць ад блевакоў і гаўна. Уявіце ўсё гэта, уявіце! *Весела мне на Юкатане...*

**Пудзіла і дзіва**

якое ў час „перастройкі" ўжо стабурчылася, упіралася здаваць на роднай мове экзамены па філасофіі, з вядомым вынікам. Такога сапраўды не паставіш „по красных уголках" як прыклад *прылічнага* савецкага маладога чалавека. Трыццаць тры яму, узрост якраз каб прыхвастаць дурня да крыжа! Нічога, што Ісус не заклікаў да паўстання супраць імперыі, і так аб'явілі яго бунтаром і авантурыстам. А гэты тут кажа проста ў вочы: *Мы — салдаты, таму мусім быць са зброяй, здабываць зброю, вырабляць зброю, берагчы зброю. Наша філязофія знаходзіцца на вастрыі клінка. Мы*

**любім горача халоднае лязо**

*— няхай па ім сцякае кроў ахвяры, каб вольна жыць і спраўдзіць нашы мары.* **Яны** адназначна выбіраюць зло, але гэтае зло ёсць злом для ворагаў Айчыны. *Паставім здрадзе піку пад рабро за герб, за сцяг ды іншыя злачыны.* Гэта ўжо вершы з апошняга, трэцяга зборніка — „Каханне пад акупацыяй", выдадзенага ў 1996 г.

*Ах, стихи? Те самые, о Сашке?*
*Где-то я народу их читал?*
*А потом в растерзанной рубашке*
*власть бранил и юных дам пугал?*

Так піша „ўрэдзіцель парадку". А што яму асталося? „З дарогі, страх! Зашыйся ў нару, гайня інтэлігентных імпатэнтаў!" Літанія і псалмы, Граал і „музыка, якая заўжды ёсьць са мною", і захапленне *цнатлівай антыбрутальнасцю* трынаццацігадовай паненачкі, „Ода жаночым вусікам" і вечнаму каханню (а *калі здрадзіш — я ўспомню, дзе ляжаць патроны). Люблю цябе татальна, як тэрор, як бомбу ў пластыку, якая ліквідуе таго, што нам закрыў шляхі да зор...*

**Як ні дзіўна, я — тутэйшы,**
*...і магу прысесьці ў полі,*
*і магу сьпяваць услых,*
*як ні дзіўна, у кішэні*
*хвігу я магу насіць!*

*Азароныя* падпанкі, самі „дзеці нянавісці і хлусні", пырскаюць слінаю з экрана, аж захлынаючыся: *Вот, маеш, народ, вот, унукі і праўнукі цех, хто тваіх рюскіх брацьеў ненавідзеў! Вот такіх падонкаў у Курапатах... той... Гітлер патыліцу прадыравіў!* І фашызмам называюць усё, апроч тых, з чые рукі кормяцца.

А Славамір Адамовіч жыве, дзякуй Богу, і піша:
*Я ўзгадаю пра законы,*
*што пісаў мой дзед-крывіч,*
*і пра бацькавы патроны —*
*так і кончу гэты спіч!*

А мне прыгадваецца, як мы з ім сустрэліся, здаецца, у 1991 ці 1992 годзе на падворку старога Дома Друку. Я падала Славаміру руку, а мае сябры-пісакі здрыгануліся, і бы горкі слуп солі каўтанулі: ты што, КДБэшніку руку працягваеш?! Ён меў адвагу гэта сказаць. Знайшлі б вы тады адвагу падаць яму сваю чыстую руку, а сёння браць ключы ў „бацькі".

**Міра Лукша**

Славамір Адамовіч, *Каханьне пад акупацыяй*, Менск 1996 г.

# Студзіводы. Малая айчына

*(працяг са стар. 1)*

Духоўную семінарыю ў Яблачыне? Дарэк папраўляе, што ён толькі кандыдат у духоўнага, бо яшчэ не высвячаны, а працуе ў ягуштоўскай царкве псаломшчыкам.

А мо ён будзе музейнікам, бо ж вучыцца завочна ў Мінску, на ІІІ курсе Універсітэта культуры, ці... гісторыкам, бо адначасова штудзіруе, таксама завочна, гісторыю ў Беластоцкім філіяле Варшаўскага універсітэта.

Ва ўсякім разе за гэтыя гады Дарэк Фіёнік стаў пастаянным супрацоўнікам „Нівы" і „Часопіса", а таксама беларускай рэдакцыі Беластоцкага радыёвяшчання. У „Ніве" можна было часта прачытаць пра яго вандроўкі па роднай зямлі, у „Часопісе" — пра хроніку мясцовасцей, па радыё — пачуць яго гутарку з цыкла „Краявіды Падляшша". Якасна новым этапам у сваёй творчасці Дарэк Фіёнік лічыць пачатак супрацоўніцтва з айцом Рыгорам Сасною, з якім пазнаёміўся ў Рыбалах у часе аднаго з рэйдаў праваслаўнай моладзі. Тады бацюшка Сасна спытаўся, хто такі Мікола Сахарэвіч. Дарэк прызнаўся: гэта я. Супольна з айцом Рыгорам Сасною ён апублікаваў у „Ніве" цэлы цыкл нарысаў пра мясцовасці і праваслаўныя храмы Беласточчыны, ды разам напісалі яны кніжку пра дзеі Царквы ў Бельску-Падляшскім.

Ну, і яшчэ Дарэк спявае. Спявае з гітарай песні баладнага тыпу. Пачаў спяваць яшчэ ў „Парнасе", як кажа, з „мусу". Трэба было заспяваць у літаратурна-музычным мантажы „Спадчыну" Янкі Купалы. Падрыхтоўка была, бо вучыўся іграць на акардэоне ў Бельскай музычнай студыі. Прайшоў нават праз музычны гурт тыпу „disco polo". Спяваў у конкурсах беларускай песні, на „Басовішчы", а вось цяпер, як кажа, сышоў на бардаўскую песню. У Бельску на апошняй „Бардаўскай восені" спяваў паэзію Яна Чыквіна, Роберта Бернса, ну, і сваю ўласную песню „Аўтобус у Белавежу".

Зараз, зараз, але чаму мы з дырэктарам ад культуры Казімежам Дэркоўскім і яго супрацоўніцай Валянцінай Казімерчык-Швед сядзімо на Галаваска ў Даркавай хаце-музеі ў Студзіводах і частуемся піражкамі з яблыкамі, якія спякла Даркава маці?..

Бо Дарэк як пастанавіў, так і ёсць: быць верным сваёй малой айчыне. Разам з настаўнікам Яўгенам Вапам, старшынёю Беларускага саюза яны зрабілі праект „Бельск-Падляшскі — сэрца пагранічча" і выслалі яго на конкурс „Малых айчын", які Фонд культуры вядзе ўжо некалькі гадоў. Са 114 праектаў было выбрана 15 найлепшых, у ліку якіх апынуўся і іх праект. Дырэктар фонду Стэфан Старчэўскі і іншыя члены журы (усіх 12 асоб) сядзелі ў Даркавай хатцы два дні 5 і 6 ліпеня, пра ўсё пыталіся, усё аглядалі. І так бельскі праект апынуўся ў паўфінале. Дырэктар Дэркоўскі марыць пацішу: „А мо вам прызнаюць першае месца..."

Даркава хатка-музей была пабудавана ў 1926—28 гадах Даркавай прабабкай і яе сынамі пасля вяртання з бежанства. А дзядзька Якуб запісаў яму сваю маёмасць і хатку, якую Дарэк перавёз, праўда, усяго на 200 метраў далей, але ў больш прасторнае месца і тады ў хатцы зрабіў музейчык, а каля яе — скансэн з жоравам.

Дарэк цвёрда ведае, што мясцовыя, рэгіянальныя традыцыі, а нават найменшая іх праява — гэта праўдзівае багацце. Шкада, што хаця дробнымі крочкамі, але адыходзяць яны ў нябыт. Вось, напрыклад, у Студзіводах ужо амаль ніхто на Каляду не ставіць **госця** — снапка неабмалочанага жыта на покуце. Сёння камбайн змятае па дарозе ўсё: і **пэрэпэліцю**, і **госця**, а людзі не маюць адвагі нават рот адкрыць, каб камбайнер пакінуў апошні кавалак жыта на „пэрэпэліцю".

Калі абсталёўваў Дарэк хатку, то тады яшчэ падумаў, што ў Бельску ж няма беларускага клуба. А тут было б добрае месца для спатканняў. І меў рацыю. Вось і нядаўна сустрэліся тут члены Бельскага праваслаўнага брацтва, быў таксама айцец Георгій Такарэўскі з моладдзю. У чэрвені наведалі музей вучні беларускай гімназіі з Вільні, былі таксама госці з Храбалоў, Ягуштова.

Аглядаючы сабраныя тут Даркам Фіёнікам збаны, саламяныя капелюшы, ступы, капанькі, каробкі ды старую драўляную мэблю: лавы, шлябан, стол, крэсла ды куфар, які прыехаў з Даркавымі прадзедамі ўсё бежанства і вярнуўся разам з імі з Саратаўскай губерні, дзеці дзіву дзівяцца: як так людзі маглі жыць?!

Хата ўпрыгожана вышыванымі ручнікамі, іконамі, а на запечку ляжыць старая ватовая коўдра. Бацькам толькі што нехта заслаў яе і выйшаў на працу ў поле...

А людзі што на гэта, на ўсе гэтыя Даркавы фанабэрыі? Людзі, суседзі цешацца, калі нешта ў іх дзеецца. Вучацца цаніць свае традыцыі і, замест выкінуць нейкую капаньку, зараз нясуць яе і пытаюцца, ці не спатрэбіцца мне гэта, расказвае Дарафей. Вось 3 кастрычніка прыязджалі з Польскага тэлебачання з Варшавы, здымалі тут, перад маёй хаткай бельскі калектыў „Маланка" пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука.

Калісь стаю на прыпынку, дадае Дарэк, і чую, як размаўляюць дзве жанчыны: „Ты ведаеш, а Дарэк у своёй хаці жывэ, а в дідовуй важных люді прымае!"

У сваім праекце на конкурс „Малых айчын" Дарэк Фіёнік і Генік Вапа стараліся паказаць, які ён ёсць, іх родны кут. Пісалі пра студзіводскі музей, пра выстаўку аб бежанстве ў Бельскім музеі, пра семінар „Беларусы Бельшчыны", пра пабудову Мікалаеўскай часоўні каля бельскай „тройкі", пра два крыжы, размаляваныя дзецьмі ў рамках сустрэч „Зоркі": адзін — каля часоўні, другі — на Дубічах, прысвечаны памяці дырэктара Беларускага ліцэя Яраслава Кастыцэвіча. Можна пералічваць многа. Дарэк гаворыць, што ўсё, што яны любяць, павінна ісці на карысць аўтэнтычнага аблічча Бельска.

Марыць ён, каб яшчэ абсталяваць у сваёй хатцы-музеі залу „Музей бежанства", а за хаткай каб стаялі гаспадарчыя будынкі.

І так плануе сабе, што ў наступным годзе можна будзе склікнуць сяброў, даць ім у рукі касу і зрабіць у Студзіводах дажынкі. Тады будзе і „госць" і „перапеліца".

Дарэк лічыць, што калі людзі бываюць у хаце, яна цёплая.

**Ада Чачуга**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Малюнак Агнешкі Качаноўскай з Чыжоў.*

## Коцік

Коцік, коцік, куды ты знік?
Коцік, коцік, дзе залез?
Хадзі, малака табе налью,
Хадзі, каўбаскай пачастую.

Ой! згубіўся коцік мой,
Куды знік, куды пабег?
Дзе ж ён, дзе ж ён коцік мой!
А вось ты, вось коцік мой.

Коцік, коцік залаты,
Коцік, коцік чорна-белы,
Ты бяздумна паступіў.
Усё ж такі люблю цябе.

**Сільвія Ракіцкая**
**V кл. ПШ у Нарве**



*Сябры „Зоркі": Сільвія Паплаўская, Андрэй Казёл (усярэдзіне) і Грышка Ціткo.*
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Пішуць школьнікі

### Добры дзень „Зорка"!

Мяне завуць **Марта Грыгарук** і вучуся я ў VII класе Пачатковай школы ў Орлі. Вучуся добра і вывучаю родную мову. Наша настаўніца беларускай мовы **Анна Шыманская** сарганізавала конкурс на найлепшага паэта нашай школы. Вучні цэлы год будуць складаць вершы, а пад канец школьнага года мы будзем чытаць найлепшыя творы для сваіх настаўнікаў і сяброў. У сваім вершы я апісала ўражанні ад настаўніцкага свята ў нашай школе. Гэты верш Табе, „Зорка", высылаю. З самымі найлепшымі пажаданнямі

**Марта**

### Дзень настаўніка

Дзень настаўніка,
вялікае свята ў школе.
Восьмы клас, вучыць
роднай мове нас.
Усе крычаць, смяюцца
Восьмы клас падымае рукі на нас,
Усе ўцякаюць, бегаюць,
Восьмы клас будзе пытаць нас.
А мы зможам добра адказаць,
І ў дзённіку пяцёркі будуць стаяць.

**Ад рэдакцыі:** Марта, думаю, што сапраўды ў дзённіку ты будзеш мець самыя пяцёркі. Пры нагодзе прывітанні тваім сябрам васьмікласнікам, якія вучаць вас роднай мове.

### Добры дзень, „Зорка"

Пішуць табе **вучні шостага класа са школы ў Крыўцы.** У нашым класе дзевяць вучняў. Усе мы вывучаем беларускую мову. 17 кастрычніка вучні нашай школы, ад чацвёртага па восьмы клас і настаўніца беларускай мовы, **Надзея Міхальчук** ездзілі ў госці да вучняў з Нарвы. Нас запрасілі сябры, якія вывучаюць беларускую мову. Вучні разам з настаўнікамі прынялі нас вельмі сардэчна і цёпла. Былі танцы і салодкі пачастунак. Мы пасябравалі з нарваўскімі вучнямі і запрасілі іх да сябе ў госці.

Сардэчныя пажаданні Табе, „Зорка"!

**Вучні VI класа**
**Пачатковай школы ў Крыўцы**

**Ад рэдакцыі:** Дзякую за сімпатычны ліст. Мне вельмі прыемна, што вы падзяліліся сваёй радаснай падзеяй. Да сустрэчы сябры!

# Цягаў воўк авечкі, пацягнулі і воўка

***(беларуская народная казка)***

Быў сабе адзін мужык з жонкаю, нічога ў іх не было, толькі вол і бычок-сысунец. Парадзіліся яны з жонкаю, што трэба вала прадаць, будзе тады за што хлеба купіць, а бычок няхай гадуецца.

І павёў мужык на кірмаш таго вала. Аж знайшліся тры скалазубнікі, дамовіліся між сабою:

— Ён, — кажуць, — нейкі дурнаваты, угаворым яго, што гэта цяля — не вол, і купім за бесцань.

Прыходзіць перш адзін да яго дый кажа:

— Што, чалавечку, просіш за гэта цяля?

— Шэсцьдзесят рублёў.

— Здурэў ты — за цяля шэсцьдзесят рублёў, як за вала!

— То ж гэта вол — не цяля!

І давай у спрэчкі: той кажа цяля, а той кажа вол. Ну, адступіўся купец, ажно прыходзіць другі сябра і таксама тое гаворыць. Мужык ужо сабе і не давярае: а мо гэта і цяля, але чаму ён мне такім вялікім здаецца?

Потым і трэці падышоў, і збілі чалавека з толку, аж той і зусім даў веры, што гэта цяля, і прадаў яго за тры рублі.

Купцы павялі сабе вала рагочучы, а мужык пайшоў, бы п'яны, дахаты.

Дома жонка пытае:

— Колькі ўзяў за вала?

— Толькі, — кажа мужык, — тры рублі, бо гэта я цяля прадаў, а не вала.

Жонка ў крык:

— Ці гэта ты здурэў? А то ж цяля ў хлеўчыку, а ты вала прадаў! Ён пайшоў, паглядзеў — праўда! Усю ноч думаў, думаў і надумаў сабе адну рэч. Устаў раненька, узяў цяля з хлява дый павёў прадаваць. Аж і тыя самыя купцы падыходзяць.

— Ну, што ты хочаш за тое цяля?

— Гэта ж вол — не цяля, вы ўчора ў мяне купілі цяля!

— Што ты, чалавеча, можа, ўкляпаўся? Мы ўчора і на кірмашы не былі.

Так ён, нічога ім больш не сказаўшы, прадаў цяля за тры рублі. Сам хутчэй пайшоў, купіў за тры рублі капялюш такі, як венгры носяць, і, забегшы ў тры карчмы, падаваў па рублю шынкаркам дый кажа:

— Я прыйду сюды на барыш, ды не хачу тады дурыцца, а мо і п'яны буду, то бяры цяпер грошы.

— Добра, — кажа шынкарка, — я цябе па гэтым капелюшы пазнаю.

Пайшоў мужык, аж зараз і спаткаўся з тымі купцамі. Яны кажуць:

— Чалавечку, ты нас ашукаў, тое цяля не варта гэтых грошай, што мы далі, вярні нам хоць з рубельчык.

А ён кажа:

— Грошай не вярну, калі хочаце, хадзіце са мною барыш піць.

Яны маргнулі адзін на другога, засмяяліся: добра і тое. Увайшлі ў карчму, ён кажа шынкарцы:

— Дай нам выпіць і закусіць, толькі чаго добрага!

Шынкарка ім настаўляла якраз на той рубель, дый ужо як папілі, паелі, той чалавек устаў, патрос ка-

# Вясёлы куточак

Міколка ўваходзіць у клас і ўжо з парога заяўляе, што ягоная сястра хворая шкарлацінам.

— Ідзі дадому, — кажа настаўніца, — і праз два тыдні не паказвайся ў школе!

Міколка паслухмяна пайшоў дадому. Пасля двух тыдняў зноў з'яўляецца ў школе.

— Ну і як твая сястра? — пытае настаўніца.

— Не ведаю, яшчэ не пісала, — адказвае Міколка.

— Як гэта, не пісала?

— Бо я забыў сказаць, што мая сястра жыве ў Швейцарыі.

* * *

— Колькі ў каня ног? — пытае настаўніца Міколку.

— Восем.

— Як гэта ты іх палічыў?

— Дзве заднія, дзве пярэднія, дзве правыя і дзве левыя.

* * *

— Чаго плачаш? — пытае бабулька малога хлопчыка.

— Бо мой брацік выбіў акно ў школе.

— Дык пакаранне чакае твайго браціка, а не цябе...

— Найгоршае тое, што мы блізнюкі.

* * *

Бацька правярае, чаго сын навучыўся ў школе:

— Ну, падумай добра: у цябе было дзесяць яблык, з'еў два, дык колькі табе асталося?

— Не ведаю; мы ў школе лічылі слівы.

* * *

Настаўнік звяртаецца да вучня:

— Што разумееш пад словам „вакуум"?

— Вакуум, вакуум... Не магу гэтага вымавіць, але гэта ў мяне ў галаве.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

# У дождж

Дождж ідзе, ідзе, ідзе,
дрэвы мокнуць у вадзе.
Пад лістком шырокім суха,
прытаілася там муха,
ні лятае, ні гудзе —
дождж ідзе, ідзе, ідзе.

Камарыха з камаром
ладзяць з лісціка паром.
Гром грымець ужо не хоча,
быццам кот, пад нос вуркоча.
Грыбнікоў няма нідзе —
дождж ідзе, ідзе, ідзе.

І сумуе авадзень:
задажджыла на ўвесь дзень.
Толькі радасныя ўсмешкі
не хаваюць сыраежкі:
„Будзе цёплы дождж ісці,
будзем хутка мы расці!"

**Ала КАНАПЕЛЬКА**




*Дзеці з Новага Корніна з настаўніцай Нінай Куптэль.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Польска-беларуская крыжаванка № 46

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| SALA | | FAKS | | RUTA | | BOCHENEK / LIPA | KADR | |
| SĘKACZ | | ORZEŁ / SPÓD | | | | | MAG | |
| | | | | | | | | |
| LISTOPAD / PRZESMYK, OTWÓR | | | | | | | | |
| | | | DZIKI OSIOŁ | | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 42:** кум, раса, сон, ятка, рыс, час, Янка, ікра, кастрычнік, кусок, сак, манах, сажа.

Узнагароды — **касеты рок гурту „Кардон"** — выйгралі: **Павел Кахновіч** з Гарадка, **Лукаш Астроўка** з Нарвы, **Марта Баршчэўская** з Бельска-Падляшскага, **Катажына Варанчук** з Пасечнік-Вялікіх і **Ірэна Кулік** з Тафілаўцаў.

**Запісныя кніжачкі** атрымоўваюць: **Данель Свентахоўскі** з Гайнаўкі, **Барбара Бірылка** з Новага Беразова, **Беата Кардаш** з Гарадка і **Марыля Тапалеўская** з Кленік.

Віншуем!

**Касету падарыў нам рок-гурт „Кардон".**

## Народныя вераванні звязаныя

# З калінай

У беларускіх народных песнях, казках, прыказках вельмі часта сустракаем матыў каліны. Асабліва на Падляшшы. Тут амаль кожная любоўная песня ўспамінала гэтую расліну. Чаму?

Паводле народных вераванняў каліна была кустом цярпення і тугі. Гэты куст сімвалізаваў таксама сціпласць і дзявоцтва. Нашы продкі верылі, што калі памірае маладая, незамужняя дзяўчына, яна становіцца калінай. Таму невыпадкова гэтае дрэўца так часта садзілі на магілах незамужніх дзяўчат і кавалераў. Людзі верылі, што нельга ламаць галінак каліны. Гэта магло б справакаваць няшчасце. Перасцерагалі таксама перад нюханнем квітнеючай, намагільнай каліны. Гэтая практыка пагражала ўтратай нюху.

Каліну лічылі выключна жаночым дрэўцам. Перш за ўсё таму, што расце яна заўсёды ў самоце і ненавідзіць канкурэнцыі. **Г. К.**

# Восень

Восень добрая, сардэчная прыносіць нам салодкія яблыкі, грушы і іншыя яшчэ радасці. Можна гуляць і танцаваць у дажджы, можна збіраць лісце.

Я люблю пісаць вершы і апавяданні. Трэба таксама вучыцца пісаць, чытаць і спяваць.

**Іаанна КАНАНЮК**
**Ваські**

**Ад рэдакцыі:** прывітанне Ася! Я спадзяюся, што свае вершы і апавяданні будзеш дасылаць у „Зорку".

# Загадкі

Што гэта такое: круглае як дыня, і гарачае як агонь?

* * *

Белая, вялікая, а як галодная, тады дровы і вугаль есць.

*Даслала Аня САЕЎСКАЯ з Кленік*

пелюшом дый кажа:

— Шынкарачка, ушыстко заплацоно?

— Заплацоно!

Выйшлі яны, пахадзілі крыху, мужык і кажа:

— Ведаеце што? Кірмаш, а чалавек не падпіў добра. Хадзем яшчэ!

І павёў іх, ды ўжо ў другую карчму. І там таксама зрабіў. Так яны пачалі меркаваць: штосьці ёсць у гэтым капелюшы, ён не плаціць і не вінават!

Пахадзіўшы крыху, давай самі яны напрошвацца.

— Яшчэ, — кажуць, — „на расходніка" варта было б выпіць.

Мужык прыкінуўся ўжо п'яным, быццам не памятае, што робіць, дый кажа:

— Ну, добра, хадзем!

Пайшлі ў трэцюю карчму, і там таксама зрабіў. Тады яны шэпчуцца паміж сабою:

— Гэта, мусіць, такі капялюш, што грошы сыплюцца, а ніхто не бачыць, толькі той, у каго капялюш. Трэба ад яго выкруціць, пакуль п'яны.

Дый прысталі да яго:

— Чалавечку, прадай нам капялюш.

А ён кажа:

— А не, не прадам. Гэта мой увесь спосаб, каб не капялюш, мы з жонкаю з голаду памерлі б!

Іх яшчэ ахвота лепш узяла, давай дурыць, так ён кажа:

— Дасцё пяцьсот рублёў, то аддам.

Яны яму хутчэй грошы ў руку, а самі за капялюш дый ад яго. Прыйшоў мужык дахаты, падаў жонцы грошы, і, абстругаўшы качалачку, панарэзваў на ёй цацкі ўсялякія, прыбраў стужкамі дый кажа:

— Я лягу на лаве і прыкінуся нежывым, а як прыйдуць сюды мужчыны трое, то ты ўсё плач дый усё гэтай качалачкай штурхай мяне.

Яна так і зрабіла. Прыходзяць тыя купцы.

— А! Што гэта такое?

— Я і сама не ведаю, вярнуўся мужык з кірмашу п'яны дый памёр.

— Нашто ты яго штурхаеш?

— Бо гэта такі чэнчык, што як трапіш у такое месца, то нябожчык ажыве, але я не ведаю таго месца, то ён ведаў.

Ды ўсё штурхае і штурхае. Аж ён усхапіўся, сеў дый кажа:

— А-а, я так лёгка заснуў, што гэта было?

— Ты не заснуў, — кажа жонка, — а памёр.

Яны нічога ўжо яму не ўспамінаюць, што іх шынкары за той капялюш пабілі, прычапіліся да таго чэнчыка.

— Прадай нам!

— Пабойцеся Бога, гэта мой увесь спосаб!

— А які гэта спосаб?

— От, хто ў багатых паноў памрэ, я пайду, ажыўлю, то мне дадуць, што я захачу.

Купцы тыя, даўшы яму надта многа грошай, забралі чэнчык дый пайшлі.

Ідуць, аж даведваюцца, што надта пан багаты недалёка памёр. Бягуць яны туды і кажуць:

— Так і так, мы можам ажывіць.

— Добра.

Так старгаваліся, колькі ўзяць за тое, і давай штурхаць пана тым валачкам — аж чыста на ім скуру пааздзіралі. Сын таго нябожчыка ўбачыў, што яны нарабілі, раззлаваўся, сказаў павязаць і адаслаў іх недзе ў астрог.

Вось як ашуканства ў карысць не пайшло — цягаў воўк авечкі, пацягнулі і воўка!

# Нацыя ў руху

**Гутарка з Андрэем МЕЛЬНІКАВЫМ, пераможцам „Бардаўскай восені'96”.**

***— Адкуль ты родам, Андрэй?***

— Нарадзіўся я ў Гомелі, але жыву ў Оршы. У Гомелі жыве мая жонка, у Оршы — маці. Фактычна маім натуральным станам ёсць дарога. Дарэчы, гэта натуральны стан кожнага беларуса.

„Пагоня” сама па сабе адрозніваецца тым ад іншых гербаў, што ў ім адлюстраваны рух. Функцыя народа з такім гербам гэта таксама рух. Мы народ без абмежаванай тэрыторыі, бо тэрыторыя рухацца не можа.




Бог калісь даў народам розныя функцыі, і доўга такім народам, які рухаў цывілізацыяй, былі яўрэі. Пасля ўтварэння дзяржавы Ізраіль не можам сказаць, што гэта нацыя без абмежаванай тэрыторыі. Адпаведна на гэтую функцыю павінен быў вылучыцца іншы народ. Падаецца, што знакам ад Бога быў Чарнобыль, у выніку якога вялікая частка нашых зямель была выведзена з ужывання.

Сцяг таксама можа адлюстроўваць незаняцце падпарадкаванага стану ў адносінах да іншых нацыяў. Бо белы колер з даўніх часоў і ў шмат якіх народаў атаясамліваўся са станам спакойным, а чырвоны — з актыўным. Гэты чырвоны колер на беларускім сцягу якраз на сярэдзіне. Бел-чырвона-белы сцяг існуе як элемент дзяржаўнага сцяга такіх краін, як ЗША і Вялікабрытанія, якія вядомыя сваім уплывам на сусвет.

Дзеля рэалізацыі намечанай Богам функцыі выпрацавалася такая рыса беларусаў як талерантнасць. На нізкім узроўні гэта безумоўна кепска, бо гэта робіць чалавека рабам, які аднолькава гатовы выконваць загад як ратаваць, так і забіваць. Але на высокім узроўні яна дае магчымасць разумець іншыя народы і весці з імі кантакт без штучных абмежаванняў, як непрыняцце іх веры, светапогляду, традыцый.

У беларусаў не выпрацавалася адзіная рэлігія, і гэта добра, бо рэлігія гэта ёсць прыняцце пэўнай формы суаднасін з Богам, значыць — абмежаванне спасціжэння Яго.

Можна меркаваць, што ў далейшым, калі беларуская нацыя ўсвядоміць сваю функцыю ў сусвеце, яна будзе найлепшым чынам мірыць народы, якія ваююць паміж сабой і найлепш за астатніх вучыцца. Цяпер, каб вучыцца не хапае сродкаў інфармацыі, якія дазваляюць уключыцца ў сусветную сістэму. І на захад ад Беларусі, і на ўсход ляжыць аднолькавая колькасць сусветнай сушы. На нас у роўнай ступені могуць дзейнічаць усходняя філасофія і заходні рацыяналізм. Мы будзем здольны іх сінтэзіраваць.

***— У тваіх песнях не адчуваецца, што яны створаны з такім філасофскім ухілам. Яны вельмі звязаны з гэтай зямлёй.***

— Гэтая зямля для беларусаў святая, але мы не можам на ёй рэалізавацца. Нам робіцца абмежаванні ў выездах, у далучэнні да сусветнай камп'ютэрнай сеткі. Да таго радыеактыўная забруджанасць зрабіла карыстанне прадуктамі гэтай зямлі непажаданым.

***— Што нам рабіць у такой сітуацыі?***

— Перабірацца ў свабодны свет.

***— У гэтым свеце, у адрозненне ад яўрэяў, кожная хваля беларускіх эмігрантаў расплывалася ў другім пакаленні.***

— Многім тым, што хочуць асімілявацца, не хапае сваёй годнасці. На практыцы даводзіцца сустракацца з такой формай існавання беларусаў як калонія. Яе складаюць некалькі дзесяткаў чалавек, якія селяцца ў пэўнай мясцовасці, святкуюць беларускія святы, прызнаюць бел-чырвона-белы сцяг і „Пагоню” за ўласныя сімвалы, гавораць па-беларуску і неяк падтрымоўваюць адзін аднаго. Я бачыў такія калоніі ў Оршы, Магілёве, Маскве, чуў пра нешта падобнае ў іншых гарадах ад сяброў. Мне здаецца, што гэтая форма існавання беларусаў можа распаўсюдзіцца па свеце. А калі яна распаўсюдзіцца, для беларусаў фактычна не будзе чужых зямель. Беларус можа прыехаць у больш-менш буйны горад і сустрэць беларускую калонію, у якой будзе адчуваць сябе сваім, як у іншай. Такое існаванне дае пэўную незалежнасць ад дзяржаўных догмаў, якія замінаюць развіццю сусветнай цывілізацыі. На жаль, калі жывеш у дзяржаве і верыш у яе, з часам пачынаеш ставіць яе інтарэсы вышэй за агульначалавечыя каштоўнасці. Гэта непазбежна.

***— Ці гэта значыць, што беларусы ахвяруюць сабой на алтары сусветнай цывілізацыі?***

— Магчыма, гэта і ёсць прызначэнне.

***— Значыць, нас не будзе?***

— Яўрэі захаваліся.

***— Але і яны стаміліся і стварылі сваю дзяржаву.***

— Яны састарэлі.

***— Гаворым выключна пра будучае, а твае песні пра мінулае. Да таго ты адзін з арганізатараў фэсту „Аршанская бітва”. Што для цябе значыць гісторыя?***

— Каб у нацыі не было пачуцця ўласнай непаўнацэннасці, павінен быць моцны гістарычна-міфалагічны падмурак. Я зрабіўся беларусам, калі пачаў ведаць беларускую гісторыю.

***(працяг на стар. 10)***

# Без звароту

**Зыгмунт Ясінскі прыязджаў у Польшчу ўжо ў 1994 годзе, па запрашэнні беластоцкай „Салідарнасці”. Два месяцы працаваў на гаспадарцы пад Бельскам. Ездзіў на экскурсіі ў Варшаву, Кракаў, Чанстахову. Убачыў, што Польшча — зусім розная ад Казахстана. Жонцы Раісе расказваў пра тутэйшую ежу: флякі, бігас, бутэрброды.**

Бацькі Ясінскіх былі вывезены дзецьмі ў 1936 годзе (якраз у кастрычніку споўнілася 60 гадоў) з-пад Жытоміра, з польскай нацыянальнай акругі на Украіне — Мархлеўшчыны. Жыццё ў стэпе пачыналі ў зямлянках. У час вайны бацька служыў у арміі Берлінга, прайшоў шлях ад Леніна да Берліна. Дэмабілізаваны ў 1946 годзе, атрымаў права пасялення каля Кросна. Вярнуўся ў Казахстан па жонку з сынам і не выпусцілі яго. Пабудаваў дом, у якім выгадаваў пяцёра дзяцей. Наймалодшы Зыгмунт (1961 года нараджэння) пазбыўся сваёй маёмасці і ў верасні гэтага года прыехаў з сям'ёй у Бельск.

Прыехалі яны па прыватным запрашэнні Збігнева Віньскага з Дабраміля — таго гаспадара, у якога раней працаваў Зыгмунт. Пакуль жывуць у яго бельскай хаце. Гарадская рада прызнала ім камунальную кватэру, а прадпрыемствы *Polbud* і *Unibud* прапанавалі працу. Ні адным, ні другім не могуць яны пакарыстацца, бо няма ў іх права на пастаяннае жыхарства ў Польшчы. Паводле сённяшніх законаў, трэба ім вярнуцца ў Казахстан і пачаць старанні ў польскім пасольстве ў Алма-Аце.

**Жыць стала немагчыма**

Пасёлак, у якім жылі Ясінскія, узнік дзесяць гадоў таму ў стэпе, сорак кіламетраў на ўсход ад Алма-Аты. Абслугоўваў ён свінаферму, у якой, паводле плану, павінна было гадавацца 54 тысячы свіней (але ніколі такой колькасці не дажыліся). Раіса з закончаным Педагагічным інстытутам у Алма-Аце — спецыяльнасць: біялогія і хімія — працавала ў мясцовай школе, затым у дзіцячым садку, а апошні год апынулася без працы. Зыгмунт даглядаў водныя помпы. Зарабляў няцэлых 30 долараў у месяц.

Але не гэта было найгоршае, а тое, што раптам яны — народжаныя і ўзгадаваныя ў Казахстане — адчулі сябе там чужымі. Нядаўна сусед-казах, колішні школьны сябар, сказаў Зыгмунту, каб выбіраўся адтуль да сябе. Куды?

Першымі сталі выязджаць немцы. Пачалося гэта гадоў пятнаццаць таму. Германія прыслала людзей, якія рыхтуюць ахвотных да выезду. Галоўным чынам вучаць мове, бо патомкі нямецкіх каланістаў XVIII стагоддзя даўно забылі мову сваіх продкаў. Немцаў у Казахстане ўжо вельмі мала.

Цяпер масава выязджаюць і расейцы. Хто куды, хоць Урал, хоць Сібір. Беламу чалавеку небяспечна на вуліцу выйсці. Дзяцей страх у школу пасылаць. Нядаўна дванаццацігадовага Зыгмунтавага пляменніка так пабілі, што прыйшлося аперавацъ раструшчаныя косці твару.

Людзі прадаюць за бесцань дамы (за вялікі мураваны асабняк можна ўзяць найбольш тры тысячы долараў), а тое, што ўсярэдзіне ды вакол яго, і так пакідаюць. Выязджаюць пераважна з думкай пра дзяцей. Лічаць, што ў Казахстане няма ім будучыні.

**Адысея Ясінскіх**

У маі памяняўся ў Польшчы іміграцыйны закон. Каб перабрацца сюды — трэба цяпер афіцыйнае запрашэнне ад установы. Ясінскія афармлялі якраз рэпатрыяцыйныя паперы. Улады Казахстана пагадзіліся на выезд, які павінен быў адбыцца на працягу трох месяцаў, інакш, давялося б зноў усё пачынаць ад пачатку. Тым часам у пасольства афіцыйнае запрашэнне не прыходзіла. Што рабіць, ехаць ці заставацца? Рашыліся на першае.



*Здымак зроблены ў Казахстане перад выездам. Першая злева Раіса, а ў цэнтры — Зыгмунт Ясінскія, спераду — іхнія дзеці, а з правага боку — бацькі. Побач — радня.*

Дом — блізняк з чырвонай цэглы — прадалі знаёмым казахам. Засталася там мэбля, шэсць сотак зямлі каля хаты, карова. Усё, што нажывалі. Колькі ж таго дабра можна павезці з сабою? Дзецям па адной куртцы ўзялі на дарогу. Перад выездам яшчэ павянчаліся дома. Ксёндз пахрысціў таксама дзяцей: Максіма і Таню.

У Калінінград, з пасадкай у Акцюбінску, ляцелі восем гадзін. Потым аўтобусам у Ольштын, адтуль — цягніком у Беласток і зноў аўтобусам — у Бельск. Самі дабраліся аж да хаты Віньскага, бо ў Бельску памянялі якраз тэлефонную станцыю, у сувязі з чым не маглі яны туды дазваніцца. На шчасце, прынялі іх як родных.

Цяпер займаюць яны пакой і кухню драўлянай хаты. Зыгмунт дапамагае Віньскаму будавацца і ў гаспадарцы. Раіса, пакуль, не працуе, часамі знаходзіць занятак у прыдарожным бары Віньскіх. Максім ходзіць у чацвёрты клас (бацькам найбольш падабаецца, што, хаця жывуць яны каля вакзала, можна пусціць яго самога ў школу без страху), а Таня — у групу шасцігодак у дзіцячы сад. У нядзелю ўсе ідуць у касцёл.

Абы ім тут легальна ўладкавацца і хутчэй дзе на працу. Работы не баяцца. Для дзяцей.

Казахстана, як месца, ім не шкада. Але засталіся там браты, сёстры, бацькі. Старыя плакалі (бо ці ўбачацца яны яшчэ калі), але не адводзілі ад выезду. За людзьмі сумна.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*

# Царква і манастыр св. Мікалая ў Бельску-Падляшскім

Айцец Рыгор Сасна і Дарафей Фіёнік з'яўляюцца аўтарамі кніжкі *Dzieje Cerkwi w Bielsku Podlaskim*. Кніжку год таму выдала Беларускае гістарычнае таварыства. Маланкава разышлася яна сярод чытачоў. З увагі на вялікае зацікаўленне зместам гэтай кніжкі, Брацтва праваслаўнай моладзі з Бельска-Падляшскага выпрашыла выдаць найбольш цікавы яе фрагмент, прысвечаны гісторыі царквы і манастыра св. Мікалая*.

На прыкладзе гэтай царквы добра відаць звыш двухсотгадовае змаганне праваслаўных Беласточчыны за права на захаванне тут веры і культуры продкаў. Праваслаўныя епіскапы і святары, якія ў 1596 годзе пакінулі сваіх вернікаў і падаліся ў каталіцызм, атрымалі падтрымку лацціннікаў і ўлад Рэчы Паспалітай. Змаганнне за царкву св. Мікалая ў Бельску-Падляшскім — доказ таму, колькі зла, варожасці і нянавісці прынесла Берасцейская унія лакальнай грамадскасці.

Прыбытак з продажу кніжкі Брацтва праваслаўнай моладзі поўнасцю прызначае на пабудову капліцы (побач Пачатковай школы н-р 3), прысвечанай памяці св. Мікалая.

**рэд.**

*о. G. Sosna, D. Fionik, *Cerkiew i monaster św. Mikołaja w Bielsku Podlaskim*, Bielsk Podlaski 1996, wyd. Bractwo Młodzieży Prawosławnej.

## За граніцай

*Пакойнай сяброўцы па працы*
*Гражыне Саевіч прысвячаю*
*Зямля ёй пухам!*

Ты была, як кветка.
Усмешка не знікала з
твайго прыгожага твару.
Цешылася ўсім наваколлем.
Злая хвароба знявечыла цябе.
Прынесла многа пакутаў.
Усе табе спачувалі.
Аставалася ўсяго пяць дзён
да прыходу восені.
Ты ціха адышла
ад нас назаўсёды.
Асіраціла трое дзяцей.
Рана ты адышла.
Табе яшчэ трэба жыць.
Бог рана паклікаў цябе.
Усе сумуюць і плачуць.
Бывай дарагая сяброўка!
Жыць будзеш вечна ў
нашых успамінах.

**Аўрора**



*Фота з архіва.*

# Новае праваслаўнае свята

Усіх Святых — гэта свята каталіцкае. У праваслаўных больш-менш у гэты час выпадае Памінальная Дзмітрыеўская Радзіцельская субота, інакш Восеньскія Дзяды. У Беларусі яны замацаваны як дзяржаўнае свята 2 лістапада. Яшчэ трыццаць гадоў таму на Усіх Святых толькі сёй-той праваслаўны заглянуў на могілкі, запаліў зніч. З гадамі такіх наведвальнікаў было штораз больш. Сёлета на Усіх Святых праваслаўныя могілкі на Выгодзе ў Беластоку былі бітком набітыя. Сапраўды цяжка было прайсці. Служыліся паніхіды, асвячаліся магілы. Як у кожнае іншае свята ля ўвахода чакалі са скарбонкамі збіральнікі міласціны на пабудову цэркваў і ўтрыманне такіх праваслаўных установ, як духоўная семінарыя. Праваслаўнае брацтва расклала латок з кніжкамі.

Яшчэ больш экуменічна, як і належыцца, было на гарадскіх могілках, дзе дружна ляжаць хрысціяне ўсіх веравызнанняў, яўрэі і, last but not least, атэісты. З усіх бакоў да вушэй даляталі то праваслаўныя, то каталіцкія напевы.

Пад ціскам новага здаюцца самыя вялікія традыцыяналісты, як напрыклад мая маці. Вось апошні кастрычніцкі чацвер зышоў ёй на парадкаванні могілак, азадбленні іх ялінай і г.п. Наракала прытым, што праваслаўныя як авечкі ідуць за каталікамі і бажылася, што яна могілак асвячаць супраць традыцыі не будзе. Дык вось запытаная мною, навошта тады так стараецца, адказала з прастатою: „Што, каб пазней гаварылі, што ў нас не прыбрана?"

Такім чынам наш абрадавы каляндар узбагаціўся на яшчэ адно свята — Усіх Святых.

**Алег Латышонак**

# Храм у Цехацінку

5 кастрычніка г.г. адбылося пасвячэнне царквы ў Цехацінку. Я калісь пісаў у „Ніву", што, будучы ў Цехацінку, знайшоў царкву з царскага часу, у якой быў нейкі склад, аднак той допіс не быў тады апублікаваны. Гэтая царква была пабудавана ў канцы мінулага стагоддзя пры казармах царскай арміі. Пасля I сусветнай вайны пераняло яе польскае войска. Знялі тады купал і званіцу, арганізуючы там святліцу. Пасля II сусветнай вайны вайсковая санаторыя выкарыстоўвала колішнюю царкву на склад. Некалькі гадоў таму была прапанова, каб перанесці яе ў парк і наладзіць там мастацкую галерэю, аднак будынак быў замоцна зруйнаваны. Год назад Міністэрства нацыянальнай абароны перадало аб'ект Праваслаўнаму палявому ардынарыяту. Рэстаўратары з Торуня правялі рэканструкцыю і рамонт святыні вельмі старанна, завозячы аж з Сібіры драўніну на канструкцыю і ўнутранае адстройванне царквы.

**Андрэй Гаўрылюк**

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі імясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры)***

А цяпер пра лёс дзедавых дзяцей.

Сын Васіль яшчэ на пачатку рэвалюцыі, пад уплывам камуністычнай агітацыі, кінуў працу на заводзе і ахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію. Наймалодшая дачка Ксеня, пад уплывам агітацыі ў гімназіі, кончыла курс міласэрных сясцёр і таксама добраахвотніцай пайшла ў Чырвоную Армію. Значыць, з нашай блізкай радні былі як белыя, так і чырвоныя. І магло здарыцца так, што белагвардзеец Парфенцій Амельянюк страляў у чырвонагвардзейцаў Ксеню і Васіля Антанюкоў-Сакоўскіх (дзяцей яго роднай сястры), а яны палілі ў роднага дзядзьку. Вось у чым найбольшы парадокс і трагізм рэвалюцыі, але не толькі.

Перад адпраўкай на фронт, Ксеня і яе сяброўка, таксама медсястра-добраахвотніца, хадзілі да варожкі даведацца, што чакае іх на гэтай грознай рэвалюцыйнай сцезі ды і ўвогуле ў будучыні. Варожка вываражыла Ксені добрую будучыню, а яе сяброўцы — кепскую. І памылілася моцна, жыццё зноў унесла свае карэктывы ў людскія гаданні і жаданні. На іх чырвоную часць напалі казакі і пабілі-парубалі іх. Зарубалі і сястрычку Ксеню. І сталася так, як у песні пяецца: „И родные не узнают, где могила моя". Думаю, што ў хвіліне смерці менавіта аб гэтым падумала і Ксеня. Родныя ніколі не даведаліся, дзе яе бедненькай магілка.

А сяброўка нейкім цудам выратавалася. У мітусні бітвы, калі стала ясным, што ім паратунку няма, пачала перавязваць раны варожым салдатам ды бачком, бачком і драла з поля бітвы...

Цярністаю была жыццёвая дарога і другога дзедавага ваяра за рэвалюцыю — сына Васіля. У Чырвоную Армію пайшоў ён, як і сястра яго Ксеня, яшчэ непаўналетнім. У выбары такой цяжкай і небяспечнай дарогі кіраваўся ідэямі татальнай роўнасці, справядлівасці, брацтва паміж людзьмі і народамі, якія тэарэтычна несла з сабой рэвалюцыя.

І папававаў, папакутаваў спачатку радавы салдат, а потым чырвоны камандзір Васіль Антанюк. Ваяваў з белымі, якія не заўсёды былі белымі, касавокімі, з фашыстамі і кім толькі. Ваенная фартуна, якая падобна колам коціца, сапраўды была надта зменлівай яму: некалькі разоў быў паранены, пабываў у варожым белагвардзейскім палоне, а таксама ў родных сталінскіх засценках і фашыстоўскім канцлагеры. Адной такой біяграфіі смела магло б хапіць для некалькіх чалавек. І сумна б ім не было ў жыцці.

Спачатку Васіль Антанюк з групай чырвонаармейцаў трапіў у палон да белагвардзейцаў. Іх чакала непазбежная смерць, бо ў той час белыя яшчэ без суда і разбору расстрэльвалі ўсіх чырвоных ваеннапалонных. Перад самай аднак іх экзекуцыяй прыйшоў прыказ зверху не ўсіх чырвоных пагалоўна караць смерцю, а з кожным паасобку разбірацца.

І пачаліся доўгія і нудныя допыты хто з іх, як і чаму стаў чырвонаармейцам. Ці часам хто з іх не пайшоў у Чырвоную Армію дабраwольцам, бо для такіх ужо літасці і паратунку не было.

У Васіля Амельянюка найбольшую падазронасць следчых выклікала яго непаўналетнясць, якая магла сведчыць аб тым, што ён не быў пад прымусам змабілізаваны ў Чырвоную Армію, а пайшоў добраахвотнікам. Да гэтага ён аднак не прызнаваўся, даказваючы, што стаў чырвонаармейцам не па ўласнай волі, а па мабілізацыі. Што магло так быць, добра ведалі і самі следчыя, бо і яны часта сілай бралі ў сваю армію такіх непаўналетніх — і гэта быў як бы аргумент на яго карысць. З другога аднак боку ў тыя злыя часы панавала таксама моцная тэндэнцыя, што лепей расстраляць некалькіх лішніх невінаватых, як аставіць у жывых хаця б аднаго вінаватага. І зноў жыццё яго павісла на валаску. Канчатковае выратаванне ад смерці чырвонаармейца Васіля Антанюка прыйшло з іншага і зусім нечаканага боку.

Пры палонным Антанюку было школьнае пасведчанне яшчэ з вясковай школы. На ім апрача персанальных даных і прадметных ацэнак, быў здымак царскай сям'і. І пасведчанне, і царская сям'я на ім былі ў вялікай пашане. Царская сям'я была нават абведзена Васілём прыгожым каляровым арнаментам. Гэта следчым вельмі спадабалася. Яны, відаць, пераплумачылі сабе гэты факт вялікай любоўю і пашанай уласніка пасведчання да цара і яго сям'і, інакш кажучы — яго вернападданніцкімі пачуццямі, а не педантычнымі адносінамі да дакументаў.

І сапраўды, магло яно падабацца, бо нямала было ў той час і такіх, якія нават у афіцыйных дакументах заклейвалі, замазвалі царскія партрэты ці нават выкалупвалі цару вочы на іх. Як бы, зрэшты, яно не было, але астаецца фактам, што школьнае пасведчанне выратавала Васіля Антанюка ад смерці. З яго групы палонных яшчэ некалькім чалавекам удалося пазбегнуць смерці. Большая аднак іх частка была расстраляна.

Калі выйшаў на волю, зноў дастаўся да сваіх і зноў ваяваў у радах чырвоных аж да пераможнага канца.

Рэвалюцыя перамагла, і Васілю Антанюку запрапанавалі паступіць у першую сапраўднуую савецкую школу чырвоных камандзіраў, бо ўжо такіх як ён, недавучаных камандзіраў, не патрабуюць. Ён згадзіўся.

Цяжка было ваяваць, нялёгка было і вучыцца. У камандзірскай школе вымагалі вельмі многа, а ўмовы жыцця і навукі былі вельмі цяжкія. Васіль Антанюк аднак усе цяжкасці перамог, школу закончыў і стаў працаваць ужо поўнасцю кваліфікаваным чырвоным камандзірам.

Гэта быў, можна сказаць, першы ясны момант у яго паблытаным маладым жыцці. Перажыўшы столькі гора і безнадзеі — страта радзімы, бежанства, холад, голад, трагічная смерць блізкіх, рэвалюцыя, белагвардзейскі палон і чаканне смерці, зноў бітвы, раны і кожны дзень на грані смерці, як жа ж шчаслівa мусіў цяпер адчуваць сябе ён. Здавалася, за ўсе свае і сваёй сям'і пакуты і крыўды, нарэшце разжывецца і зробіць кар'еру чалавек. Страшэнныя бітвы і войны ўжо адгрымелі, а ты — малады, здаровы, прыгожы і ўжо заслужыўшы крывёй сваёй пашану чырвоны камандзір. А вакол цябе самая гуманная, самая справядлівая і „широка страна моя родная" з багацейшымі палямі, лясамі і рэкамі. А кіруе ёю не нейкі цар-прыдурак, а родная і мудрая камуністычная партыя, а ёю кіруюць яшчэ раднейшыя і мудрэйшыя правадыры Уладзімір Ульянаў і Соса Джугашвілі. Чаго ж вам да поўнага шчасця яшчэ трэба?! Проста рай на зямлі. Ну, можа раю яшчэ і не было, але што меўся хутка наступіць ён, то напэўна.

***(працяг будзе)***

# Радзіма — Родзіна

**Частка LXII**

Антон Адамовіч — чалавек з універсальнымі зацікаўленнямі, прыглядаўся між іншым і да беларускага друку ў Польшчы. Яго назіранні характарызуюцца глыбінёй і арыгінальнасцю і таму варта да іх адклікацца.

„Я не хачу сказаць, што з'яўляюся знатаком беларускага літаратурнага і публіцыстычнага руху ў Польшчы. Аднак стараюся чытаць тое, што вы там выдаеце. Перад усім, дык прагну сказаць, што цешыць мяне тое, што нарадзіўся ў вас літаратурны рух і што гэты рух стараецца пралажыць свой уласны шлях у беларускую пісьмовасць. На шчасце ніхто з вашых пісьменнікаў і крытыкаў не захапіўся браць прыклад з савецкай літаратуры і кіравацца прынцыпамі сацыялістычнага рэалізму. Моцна ў творчасці „белавежцаў" гучыць струна прывязанасці да роднай нацыі, роднай зямлі і родных традыцый. Гэткі шлях правільны. Калі пойдзеце ў напрамку так званага „паэтычнага універсалізму" — прападзеце. Будзеце пісаць па-польску беларускімі словамі. І таму дбайце як мага аб беларускі каларыт і беларускую духоўнасць у беларускіх творах.

А вось што датычыцца публіцыстыкі ў „Ніве" дык баюся, што абраны некаторымі публіцыстамі шлях завядзе тыднёвік у тупік.

Вы напэўна ведаеце Сяргея Хмару, які выдае ў Канадзе сваю газету. Ну, дык самі бачыце, што чалавек гэты корміцца нянавісцю, эгаізмам і жоўцю ў адносінах практычна да ўсіх беларусаў — і тых усходніх, і тых заходніх. Вядома, што мэта такой публіцыстыкі зводзіцца да таго, каб усё беларускае асяроддзе пасварыць, пасеяць узаемную нянавісць, інспіраваць перманентную вайну ўсіх беларусаў з усімі. А гэта абазначае ў канцы канцоў разбіццё беларускага руху і яго смерць. Хмара, мабыць, не разумее, што ў гэтым агні ў канцы канцоў ён згарыць таксама.

І вось з прыкрасцю прагну сказаць, што падобныя тэндэнцыі выступаюць і на старонках „Нівы". Розніца толькі ў тым, што Хмара практычна сам нападаў на ўсіх, а ў „Ніве" бачу групу асоб, якія, кіруючыся жоўцю і нянавісцю, стараюцца спляжыць, зганьбіць і скампраметаваць усіх тых, хто ім не падабаецца. Не разумею толькі, якая ў гэтым роля галоўнага рэдактара, які з'яўляецца сваіго роду дырыжорам і каардынатарам. І вось ён замест абмяжоўваць такога роду буяноў, друкуе іх і часта на вельмі відным месцы. Зразумейце, што такога тыпу публіцыстыка, у якой беларусы знішчаюць беларусаў, будзе выкарыстана ворагамі беларушчыны. А вы не думайце, што такіх у Польшчы мала. Не веру, каб сваркі і грызня, унесеныя ў праграму тыднёвіка, спрыялі яго папулярызацыі. Можа невялікай групе людзей такога тыпу газета спадабаецца. Але верце мне, што толькі вельмі малой групе, бо аграмадная большасць чытачоў адкіне такі напрамак газеты. А што гэта абазначае — адкіне? Чытачы, як вядома, маюць толькі адну санкцыю. Проста перастануць чытаць газету. Я тут гавару аб справе, якую вы самі бачыце зблізку. Вы ж не нападаеце на тых, хто думае і піша па-другому, чым думаеце і пішаце вы. Справа аднак у тым, каб генеральна памяняць профіль тыднёвіка, калі хочаце, каб быў ён газетай пажаданай усімі беларусамі.

Вы ж гляньце на „Беларуса", які выдаецца ў Амерыцы. Ці там сустракаеце артыкулы, у якіх вялася б вайна з тымі беларусамі, якія па такіх ці іншых прычынах не падабаюцца рэдактару? Не, не было, няма і не будзе такой тэндэнцыі, бо мы хочам быць газетай усіх беларусаў, а не нейкай групоўкі. Падумайце, ці не належала б з нас браць прыклад. Мы, беларусы, павінны змагацца з нашымі ворагамі, а не з беларусамі. Трэба, аднак, сказаць, што такія нашы рэдактары і публіцысты як даўнейшыя: Янка Станкевіч і Станіслаў Станкевіч а зараз Зора і Вітаўт Кіпелі, Вітаўт Тумаш ці Янка Запруднік, гэта людзі з шырокімі інтэлектуальнымі гарызонтамі і яны ніколі не лезлі і не лезуць у бруд чалавечай мізэрнасці. Гэта асобы вялікага фармату. Вы не думайце, што ў нас няма подленькіх чалавечкаў, якія бегаюць па свеце з вядзёркамі гразі і памыяў. Аднак стараемся іх ізаляваць ад сродкаў інфармацыі. Са сказанага не вынікае, што я супраць прынцыповай дыскусіі на любую палітычную, нацыянальную ці маральную тэму. Аднак дыскусію трэба адрозніваць ад грызні, якая кампраметуе тых, хто яе ініцыюе і прымяняе ў жыцці. І таму раю вам, не вядзіце палемік з тымі, хто на вас нападае. Палеміка такая паніжаючая. Маўчанне тут з'яўляецца найлепшым спосабам і формай кампраметацыі авантурыстаў.

Памятайце, што дзейнічаеце сярод чужых і таму мусіце быць маналітам, а калі не, дык „Ніва" застанецца без чытачоў".

**Алесь Барскі**

**Ад рэдактара:** Не верым у тое, што эміграцыйны інтэлектуал Антон Адамовіч карыстаецца тэрміналогіяй кіраўніцтва Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Антон Адамовіч ад 5 гадоў прабывае ў доме састарэлых і яго кантакт з вонкавым светам вельмі абмежаваны. Калі пры канцы васьмідзесятых гадоў спадар Барскі мог гаварыць з Адамовічам, той не быў у стане прадбачыць, хто будзе сёння працаваць у „Ніве". Сумнае, што Алесь Барскі для выяўлення сваіх поглядаў выкарыстоўвае састарэлага чалавека, ведаючы, што не зможа ён пратэставаць супраць такой крывадушнасці. А калі нехта яшчэ спытае, „якая тут роля галоўнага рэдактара", што такія матэрыялы, як тут надрукаваны артыкул Алеся Барскага, трапляюць на старонкі „Нівы", адказваю: адлюстроўваюць яны нашу рэчаіснасць, паказваюць, як успрымаецца свет нашымі дзеячамі, інтэлектуаламі, літаратарамі і звычайнымі людзьмі. Гэта дакумент эпохі, вобраз нашай грамадскасці. Мы ў рэдакцыі стараемся быць вернымі сваім перакананням і таму змяшчаем погляды, якія рашуча разыходзяцца з нашымі, ведаючы прытым, што ніякія прыхільнікі „маналіту" не дазволілі б нам прадстаўляць наша бачанне свету, калі б яны вырашалі пра змест тыднёвіка. Нашым чытачам звяртаю ўвагу, што ніколі аўтарамі вульгарных тэкстаў не былі журналісты „Нівы" і выказванні Алеся Барскага, ці Старога Беларуса („Ніва", н-р 39) не з'яўляюцца ў нас чымсьці асаблівым, а толькі адлюстроўваюць погляды немалой часткі беларускага грамадства ў Польшчы. Гэта рэчаіснасць, ад якой нікуды не дзенемся. Хаця хацелася б жыць у больш элегантным свеце.

**Яўген Мірановіч**

# Нацыя ў руху

*(працяг са стар. 8)*

Але асаблівасць успрымання інфармацыі людзьмі ўсходу ў тым, што ім трэба расказваць казкі, а не голую інфармацыю. Яны больш любяць прыгожае. Для іх істотная форма. Тыя нешматлікія замкі, якія захаваліся ў Беларусі, гэта хутчэй сакральныя і міфалагічныя аб'екты, чым турыстычныя. У іх пачынаем адчуваць іншую, вельмі моцную энергетыку. На месцы Аршанскай бітвы таксама адчуваецца гэткая энергетыка. Да таго, як тое месца разаралі і забудавалі дачамі, там на многія кіламетры расла каліна. Восенню, у гадавіну бітвы, усё чырванела. Але я сам тады яшчэ не ведаў, што тут была бітва. Я проста любіў тое месца.

Магчыма, яшчэ адно прызначэнне маіх песняў — дапамагаць людзям набіраць энергетыку. Яны лепей гучаць, калі спяваюцца залай, натоўпам. Падымаюць дух.

***— Калі арганізаваўся першы фэст „Аршанская бітва"?***

— Гэта было ў 1991 годзе, але і на два гады да фэсту мы ўжо святкавалі ўгодкі перамогі. У 1988 годзе я знайшоў вялізны камень на месцы аршанскай бітвы і чырвонай фарбай намаляваў „Пагоню" і напісаў пра гэтую бітву. У 1990 г. зрабілі драўляны праваслаўны крыж і паставілі на месцы бітвы ля шашы.

***— Што звычайна складаецца на фэст?***

— Так склалася, што на першы прыехалі барды і атрымалася бардаўскае свята. Асноўная ідэя — гэта святкаванне гадавіны бітвы і яно можа праходзіць у розных формах. Там могуць быць і вандроўкі, як у 1994 годзе, і рок-фэсты, як у 1995, і спартыўныя святы. Галоўнае тое, каб адсвяткаваць. І мы будзем святкаваць нягледзячы на ніякія перашкоды з боку ўлад. Мы проста будзем мяняць форму святкавання.

***— Гаворым цэлы час пра беларусаў з-пад знаку „Пагоні", як ты гэта калісь назваў — бел-чырвона-белых. Але ж ёсць беларусы іншага колеру, чырвона-зялёныя. Як ім быць і нам з імі?***

— Як быць чырвона-зялёным няхай рашаюць яны самі. Гэта для нас ужо другая нацыя.

*Гутарыў* **Алег Латышонак**

# Без каментарыя

Штуршком для напісання гэтай публікацыі было выступленне журналіста штотыднёвіка „Solidarność", які 2 лістапада г.г. у тэлеперадачы "Wydarzenia tygodnia" (прагр. II TVP гадз. 19.05) у час дыскусіі над „Białą księgą" і справай былога прэм'ер-міністра Юзэфа Алексага так канстатаваў: „Патрыётам трэцяй Рэчы Паспалітай з'яўляецца той, хто ў восемдзесят дзевятым адмежаваўся ад пээнэраўскай ідэалогіі і стаў на баку „Салідарнасці", а не той, што зараз уладу мае..."

Значыцца, хто з'яўляецца салідарнікам, ці сімпатыкам „Салідарнасці", той патрыёт! Усе апошнія грамадзяне — гэта нуль?

А якая тут праўда? Я, як былы салідарнік, пакажу на прыкладах са сваёй чыгуначнай Чаромхі колькі крывадушнасці бачу ў словах вышэйзгаданага журналіста штотыднёвіка „Solidarność". Гэтыя факты пакідаю без каментарыя. Думкі і рэфлексіі няхай самі салідарнікі з таго выцягнуць.

У 1993 годзе, едучы з чарговай прафсаюзнай нарады „Салідарнасці" з Седльцаў у Чаромху, мае калегі з праўлення Oddziałowej Komisji NSZZ „S" w Czeremsze пачалі скандаліць у вагоне. Усе яны былі ў нецвярозым стане. Калі „важаку" салідарнікаў звярнуў увагу адзін з едучых у вагоне начальнікаў чаромхаўскіх СОКістаў (чыгуначных ахоўнікаў), пасыпаліся вульгарныя словы з боку прафсаюзных хуліганаў. Пачалася сапраўдная бойка. Начальнікі чыгуначных ахоўнікаў па радыётэлефоне з лакаматыва выклікалі ў Сямятычах паліцыю. На вачах усіх падарожных паліцыя закаваных у наручнікі салідарнікаў высадзіла на станцыі і прагнала быццам статак авечак у службовае памяшканне дзяжурнага руху. Там саставілі пратакол. Справа трапіла ў карны калегіум у Ласіцах.

Салідарнікаў не апраўдалі. Камендант СОКу з Чаромхі накіраваў начальніку Раённай станцыі ПКП у Седльцах спадару Антонію Ідковяку службовае пісьмо з камплектам дакументаў (аб нецвярозасці абвінавачаных), каб прадпрыемства выцягнула з таго службовыя вывады. Начальнік А. Ідковяк не толькі не зрабіў ніякіх вывадаў з таго здарэння, але, прыкінуўшыся дурнем, схаваў пад сукно атрыманыя дакументы, быццам бы і нічога не здарылася. Калі я намагаўся „адкапаць" справу ў Цэнтральнай дырэкцыі ПКП у Варшаве і ў Акруговай секцыі „Салідарнасці" чыгуначнікаў, там са мною і гаварыць не хацелі. У пісьмовым адказе на заяву напісалі мне проста, што гэта ўсё няпраўда.

Пасля нейкага часу, у час начнога кантролю намеснік начальніка раённай станцыі ў Седльцах сп. Ванда Дудзінска застала ў службовым памяшканні дзяжурнага руху ў Чаромсе спячага Анатоля К. Быў падпіўшы. Ужо на другі дзень выклікалі яго ў кабінет начальніка станцыі і заявілі: пішы заяву на службовае перамяшчэнне ў Беласток, а не, будзеш за п'янку вызвалены з работы. Анатоль К. не хацеў страціць работу і выбраў другі варыянт. І па сённяшні дзень даязджае ў Беласток, дзе працуе стрэлачнікам (у Чаромсе быў дзяжурным).

2 верасня г.г. паліцыю ў Беластоку, на пероне, адзін з падарожных цягніка Брэст—Беласток паведаміў, што кіраўнік гэтага ж цягніка знаходзіцца ў нецвярозым стане. Ананімны інфарматар прасіў паліцыянтаў, каб яны ўвайшлі ў цягнік і ўсё праверылі. Прадстаўнікі паліцыі сапраўды ўвайшлі і праверылі. Тэлефонны званок аказаўся праўдзівы. Кіраўнік цягніка быў пад уплывам алкаголю. Убачыўшы бяду, наш „герой" (аказаўся ім адзін з лідэраў чаромхаўскай „Салідарнасці") пачаў шукаць выхаду. І знайшоў.

Не стану паказваць у дэталях, як усё гэта адбывалася на месцы, у Беластоку. Факт застаецца фактам. Паліцыя дазволіла п'янаму кіраўніку давесці „свой" цягнік у Чаромху. А на другі дзень кіраўнік „захварэў". Прынёс ад лекара бальнічны бюлетэнь. „Хварэў" два месяцы (а мо і больш). Ніхто з мясцовых і седлецкіх начальнікаў не варухнуў пальцам, каб праверыць „prawidłowość wykorzystania zwolnienia lekarskiego" як наказваюць законы. Яго „ахоўвала" салідарніцкае табу.

Аб усіх гэтых здарэннях многа гаварылася ў крузе чыгуначнікаў. Па нейкім часе ўсё сціхла. Не ведаю толькі, як гэтая апошняя справа закончыцца. Бо ў першым здарэнні заканчэнне вядомае. Хуліганскі пачын важаку чаромхаўскіх салідарнікаў вельмі аплаціўся. Атрымаў ён зараз жа пасля скандалу кватэру ў жылым корпусе, на якую даўно чакалі ў чарзе многія добрасумленныя працаўнікі дзяржаўнай чыгункі, і многія павышэнні на рабоце. Такія ж павышэнні атрымаў яго салідарніцкі сябра, які быў затрыманы паліцыяй у Сямятычах.

Адным словам, чаромхаўскія салідарніцкія важакі — хлопцы „амбітныя". Ведаюць, што ў жыцці самае важнае.

**Уладзімір Сідарук**

PS. Як я на пачатку прыкмеціў, факты пакідаю без каментарыя. Не пішу таксама па злосці. Сумна мне толькі робіцца на душы, калі бачу, як адзінкі-хуліганы ставяць пад ганебны слуп грамадскай рэпутацыі добрае імя сапраўдных, добрасумленных членаў прафсаюзнай арганізацыі „Салідарнасць". (ус)

# Позірк у мінулае

**17 лістапада**

9 г. — нар. Веспазіян, рымскі імператар.

1558 г. — на англійскі трон уступіла дачка Генрыка VIII Лізавета I. Пры яе 45-гадовым панаванні Англія стала еўрапейскай супердзяржавай.

1796 г. — памерла Кацярына II, расейская царыца.

1923 г. — у Германіі праведзена валютную рэформу, у сілу якой адзін більён старых марак замяняўся адной новай маркай. Фунт хлеба два тыдні да рэформы каштаваў 260 млрд. марак.

**18 лістапада**

1522 г. — нар. граф Эгмант, нідэрландскі змагар за незалежнасць краіны ад Іспаніі.

1626 г. — папа Урбан VII высвяціў Базіліку св. Пятра ў Рыме.

1910 г. — падчас дэманстрацыі суфражыстак, брытанскіх змагарак за правы жанчын, дайшло да іх сутычкі з паліцыяй. Дзве жанчыны загінулі, а 150 — арыштавана.

1960 г. — у Вялікабрытаніі адменена прызыўную вайсковую службу; армія стала прафесіянальнай.

1962 г. — памёр Нільс Бор, дацкі фізік.

1978 г. — самазабойства ў Гвіяне к. 900 членаў адной з рэлігійных сектаў.

1989 г. — у Рызе дэманстравала больш за паўмільёна чалавек за незалежнасць Латвіі ад СССР.

**19 лістапада**

1711 г. — нар. Міхаіл Ламаносаў, расейскі вучоны.

**20 лістапада**

1858 г. — нар. Сельма Лагерлёф, шведская пісьменніца.

1910 г. — памёр Леў Талстой, расейскі пісьменнік.

1917 г. — Украінская цэнтральная рада абвяшчала паўстанне Украінскай Народнай Рэспублікі ў федэрацыі з Расеяй.

1945 г. — у Нюрнбергу пачаўся працэс гітлераўскіх ваенных злачынцаў.

1975 г. — памёр Франсіска Франка, іспанскі дыктатар.

**21 лістапад**

1694 г. — нар. Вальтэр, французскі філосаф.

1783 г. — у Парыжы паветраны шар братоў Мангальф'е падняўся ў паветра на 25 хвілін.

1806 г. — Напалеон Банапарт аб'явіў блакаду Вялікабрытаніі.

1846 г. — Рыхард Вагнер закончыў музычную драму „Гібель багоў", а заадно і тэтралогію „Кальцо Нібелунгаў".

1916 г. — памёр Франц Іосіф I, аўстрыйскі імператар.

1964 г. — у Нью-Йорку здадзена ў карыстанне найбольшы падвесны мост у свеце — Верацана, даўжынёю 4 800 метраў і размахам 1298 м.

1981 г. — у Амстэрдаме дэманстравала 300 тыс. чалавек супраць размяшчэння ў Еўропе новых відаў атамнай зброі.

**22 лістапада**

1497 г. — партугалец Васка да Гама абагнуў мыс Добрай Надзеі.

1890 г. — нар. Шарль дэ Голь, французскі палітык.

1942 г. — Чырвоная Армія перайшла ў наступленне пад Сталінградам, акружаючы 6-ю нямецкую армію.

1944 г. — памёр пісьменнік Кузьма Чорны.

1963 г. — у Даласе застрэлена прэзідэнта ЗША Джона Кенэдзі.

**23 лістапада**

1876 г. — нар. Мануэль дэ Фалья, іспанскі кампазітар. **(Ш)**

# *Парнасік*

## Парадак

Лес, прырода — усяго згода,
Трэба нам іх шанаваць.
Бор паветра ачышчае
І аб гэтым трэба знаць.
Калі едзеш на пікнік,
Не забудзь асноўнае:
Па сабе прыбраць усё,
Да чысціні поўнае,
І лясоў не забруджаць,
Ні азёраў, ані рэк,
Тады з прыемнасцю скажу,
Што ты сумленны чалавек.
Калі будзеш гультаём
Ды сам не папрачаш,
Знай тады, браточак мой,
Жыццё будзеш мець сабачае.

**Мікалай Лук'янюк**

## Сасна

Прыгожая ты, сасна
І шуміш, як вясна.
Шорах гэты дзіўны:
Ласкавы, цудоўны і мірны.
У лесе ты каралева
Сярод усіх дрэваў.
Люблю адпачыць перад тваёй
велічынёю,
Перад каронаю і грандыёзнай
вышынёю,
Перад тваімі недаступнымі галінамі,
Што славяцца казкамі і былінамі...
Пахнеш, як найлепшая кветка.
Часам адзінокая ты на палетках —
Тады ты — сірата;
Але мне — любата.
У лесе займаеш першае месца
І побач цябе ніколі не цесна.
Ты даеш арамат, лякарства
І другое сваё багацце.
Нашы дамы — гэта ты
І каля іх смольныя, прыгожыя платы,
Прасторныя хлявы і клуні,
Свіраны і вулеі...
Караед цябе баіцца, калі ў час спушчана
І нашы грахі адпушчаны.
Калі зрэзваем цябе на карысць,
Тады нам так сэрца не баліць.
Сасной і лесам трэба даражыць
І ўсіх шкоднікаў біць
Дакладна і калектыўна
І жыць з лесам мірна.
Сасна пахне чарам,
Смалою і дарам
Лечыць нас, дае кісларод,
Каб не загінуў чалавечы род.
Вырубку праводзіць нам планова
І пасадку рабіць нанава.
Каб любімая сасна-хвойка
Расла лесам густым і стойкім.
Гэта наш доўг свяшчэнны,
Карысны — карэнны!
Сасняк — прыстанішча фауны і флоры —
Гэта багатае мора!
Без яго немагчыма нам жыць.
Сасною трэба даражыць!

**Мікалай Панфілюк**



*Збанок і кораб.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Даўнавата гэта было, як мы з сяброўкай паехалі ў Амерыку. Я там была тры гады, а сяброўка засталася далей, і цяпер яна яшчэ там.

І вось, што я ўбачыла ў сне. Быццам яна ўжо тут у Беластоку. Я ў яе кватэры. Яна варыць суп, памешвае. Я стаю каля яе, а на падлозе ляжаць туфлі прыгожыя, новыя і мы іх так аглядаем.

Астроне, што можа абазначаць гэты сон? Туфлі, кажуць, гэта падарожжа. Але я ўжо напэўна не паеду нікуды, бо дачушцы толькі годзік во мінуў, як жа я яе пакіну. Калі першы раз паехала, дык хлопцы мае ўжо ў школу хадзілі, і я іх пад апеку дзеду і бабе аддала.

**Бася**

Сніўся мне такі сон. Я на вёсцы, на бацькоўскім панадворку. Бацька (не жыве ўжо даўно) запрог каня ў воз, сеў на фуру і выехаў на вуліцу ў напрамку могільніка. Каля фуры з левага боку ідзе мама-нябожчыца. Ззаду за фураю іду я з унучкам. Мы босыя. Унучак скардзіцца, што яму коле ў нозе. Я кажу: „Нічога, прывыкнеш; хадзіць басанож здарова!"

Накіраваліся мы на могільнік, наведаць магілы нашых блізкіх. Што будзе?

**Люба**

Бася! Дык можа (калі ты не збіраешся нікуды ехаць) твая сяброўка яшчэ не вернецца, а застанецца ў падарожжы! Вы ж разам з ёю ўсё ж аглядалі тыя прыгожыя туфлі.

Люба! Твой сон прадвяшчае няўхільна, што ў тваім жыцці будуць нейкія цяжкасці, а з імі будзе звязана шмат клопатаў. Аб гэтым ужо сведчыць тое, што сніліся табе бацька і маці, а калі ўзяць яшчэ тое, што бацька ехаў на фурманцы, дык становіцца ясна, што паявіцца нейкая хісткая, няпэўная справа, якую давядзецца табе вырашыць.

Баюся, што будзе яна звязана з тваім унукам, бо вы ж ішлі разам босыя. Мо якраз у ўнука будуць нейкія фінансавыя праблемы.

Мяркую ўсё ж, што твае справы скончацца добра, бо ўсё ж выехалі на могілкі, а яны сведчаць аб тым, што ўсё супакоіцца.

**Астрон**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 3. драпежная жывёла сямейства куніцавых, 8. вясковы буржуа, 9. сталіца Эрытрэі, 10. ільдзіны з хмары, 11. дэталь машыны ў выглядзе стрыжня, якая служыць для рэгуляцыі, 13. горад у Нарвегіі, 15. хлеб для прычашчэння, 16. сталіца Гвінеі-Бісау, 20. дзяржава ў Азіі, 22. яхта з трымя палубамі, 23. тонка ссуканая пража, 27. асенні месяц, 29. хатняя жывёла, 30. сталовы прыбор, 31. кукуруза, 32. напр. вірус, 33. польская рака, 34. ядро + электроны.



**Вертыкальна:** 1. італьянскі кампазітар, аўтар „Тоскі", 2. мэбля для ляжання, 4. горад, які пацярпеў 6.08.1945 г., 5. тоўстае палатно з грубай ільняной пражы, 6. цёмнае воблака, 7. войска, 12. самаход для перавозу грузаў, 14. не копія, 16. абутак з высокімі халявамі, 17. месца злучэння частак, 18. агароджа, 19. пахучая расліна, 21. жаночае імя, 24. спакойнае, шчаслівае жыццё, 25. пустазелле з ружовымі кветкамі, 26. сталіца Эстоніі, 27. буйны праваслаўны манастыр, 28. бразільскі танец. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 39 н-ра:**

**Гарызантальна:** Шчара, кампанент, Берут, адрас, Ака, барытон, Саколка, Яна, аклад, сфера, гекталітр, рокат.

**Вертыкальна:** Гарадок, Шэмет, амеба, кардыёлаг, тэрмометр, брама, секта, Аня, аса, Нараўка, дакор, спірт.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.



**„Niwa"**

ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Пародыі

**Матылі ў галаве**

*А матыль у галовах,*
*а дуб вядзе душу цераз дрыгву...*
**Барыс Руско**

У маёй галаве матылі —
Незнарок я зайшоў у балота,
Да чаго ж вы мяне давялі —
Я застаўся цяпер без работы.
Дуб стары забраў душу маю,
Матылі ў галаве — днём і ноччу,
Я работу шукаю сваю —
Па балоце упэўнена крочу.
Галаву засаджу у дрыгву,
Каб прапалі усе матылі,
А пасля без яе зажыву
На сваёй беларускай зямлі.

**Сяргей Чыгрын**

## Без плямаў

Афіцыянт паўсонны
Дзяўчыне нёс булён
І незнарок булёнам
Заліў спадніцу ён.

— Ах, жах! —
Яна ўздыхае
І шле яму праклён.
Ён супакоіў:
— Плямаў
Не робіць
Наш булён...

**Мікола Алтухоў**




*Мал. М. Сеўлюка*




*Мал. В. Ключніка*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Паэт да жонкі:

— Не магу знайсці апошняга верша; ці наша дачушка не спаліла яго ў печы?

— Ну што ты! Яна ж маленькая, чытаць яшчэ не ўмее.

* * *

— Як табе падабаўся апошні фільм?

— Ён такі сам, як і кніжка: нават заснуў у тым самым месцы.

* * *

Пакупніца ў кнігарні:

— Хацела б купіць нешта для чытання...

— Лёгкае?

— Неабавязкова; у мяне аўтамабіль.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Мой муж з'яўляецца іпахондрыкам.

— А ці гэта добра аплачваемая прафесія?

* * *

— Кветкі, кветачкі! — захвальвае свой тавар прадаўшчыца. — Купіце кветкі жонцы, — звяртаецца да прахожага.

— Я нежанаты, — адказвае той.

— Дык любімай.

— Не маю.

— Дык купіце хаця б на тое, каб адзначыць сваё бестурботнае жыццё.

* * *

— Не спадзявайся замнога, — гаворыць дзяўчына залётніку, — перад шлюбам не будзе між намі ніякіх інтымных кантактаў.

— Згода! Пачакаю, калі выйдзеш замуж.

* * *

Жонка смакуе піва, якое штодзённа папівае муж. Спрабаваўшы два глыткі, крывіцца:

— Якое яно нядобрае!

— Ну, бачыш! Колькі ўжо разоў гаварыў я табе, што не раблю гэтага дзеля прыемнасці.

* * *

Гутараць два сябры:

— Толькі праца і праца, — наракае адзін, — ад раніцы да вечара толькі праца...

— Здаўна працуеш? — пытае сябра.

— Заўтра пачынаю.

* * *

— Чаму ты не прыйшоў учора на працу? — пытае брыгадзір рабочага.

— Прыйшоў, толькі ўжо нікога тут не было.

## Парады на зіму

Калі я адпачываў у верасні над морам, у горадзе Устцы, меў магчымасць паслухаць даклад аднаго лекара на тэму, як быць здаровым усю зіму. Хто хоча пражыць зіму без грыпу і прастуды, павінен пра гэта думаць ужо восенню, бо гэта найлепшая пара на мацаванне абаронных сіл арганізма. Неўзабаве наш арганізм будзе падвергнуты вялікім нагрузкам, такім, як перамены надвор'я і атакі бактэрыяў і вірусаў, якія найбольш небяспечныя ў сырасць і холад. Каб не былі патрэбныя супрацьгрыпавыя прышчэпкі, трэба загадзя загартавацца і прызвычаіць цела да мяняючыхся тэмпературных варункаў, каб імуналагічная сістэма магла ўпору даставіць куды трэба абаронныя сродкі.

Арганізм трэба гартаваць раніцай, бо тады найлепей рэагуе ён на цяпло і холад:

— Браць пераменны душ: цёплаю і халоднаю вадою; напачатку каротка, пасля штораз больш.

— Хадзіць па вадзе: наліць у ванну вады да паловы лыткі і хадзіць у той вадзе як бусел, падымаючы ногі з вады. Пасля энергічна выцерці ногі і разаграваць, бегаючы па кватэры. Пачаткова практыкавацца штодзённа па 15 секундаў, даходзячы пазней да мінуты; спыніць, калі пачуеце боль або сутаргі.

— Браць паветраную лазню: хадзіць без вопраткі па добра праветранай кватэры 15—30 мінут; двойчы ў суткі: рана і вечарам.

Не перамучвайцеся! Лішак гартавання можа быць шкодны, выклікаючы бяссонніцу, страту апетыту, а нават пабольшанне схільнасці да захворвання. Гартавацца можа толькі той, хто яшчэ здаровы.

**Андрэй Гаўрылюк**



*— Аптэчка?*
*— Няма, але затое са мной едзе медыцынская сястра.*

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Мо табе і не спадабаецца, што піша табе старая баба, ды і справы, пра якія хачу пісаць, дзеяліся трыццаць гадоў таму назад і толькі сёння знайшлі свой эпілог. Але менавіта ў справе гэтага эпілогу я хачу параіцца з табой. Пачну па парадку.

Трыццаць гадоў таму назад я была студэнткай, вучылася ў Варшаве, далёка ад бацькоў. Разам са мной вучыўся высокі чарнявы хлопец. Спачатку я не звяртала на яго асаблівай увагі. Але аднойчы ў нас было нейкае студэнцкае застолле і я апынулася каля яго. Увесь вечар прайшоў у нейкім пахмеллі, і я не маю тут на думцы п'янку, а тое, што я была завarожаная ім. Я ніколі не думала, што ён такі прыемны хлопец.

Ад гэтага часу мы з ім не разлучаліся. Быў гэта першы хлопец, якога я пакахала чыстым дзявочым каханнем і якому я аддалася. Мы сябравалі аж да канца вучобы. Я ведала, што калі раз'едземся ў розныя бакі, можам расстацца назаўсёды. Мы жылі ў розных канцах Польшчы, і — трэба было на нешта рашыцца. Я непакоілася, што мае бацькі не згодзяцца на шлюб. Справа ў тым, што хлопец быў каталікам, а я праваслаўная. І сталася. У хаце разгарэўся скандал. Я прадчувала, што гэта можа здарыцца, і таму нічога не гаварыла раней бацькам. Ну, але ж цяпер была вымушана гэта зрабіць.

Як толькі не пераконвала мяне мая мама, што я буду ўсё жыццё нешчаслівая, што ён будзе лічыць мяне за нішто, за нешта горшае ад яго. А што датычыцца дзяцей, дык ужо на выхаванне іх я не буду мець ніякага ўплыву. Бо ж вядома, што касцёл у нас заўсёды перамажа. Рэдка здараецца, каб праваслаўная ці праваслаўны пераканалі сваіх партнёраў да сваёй веры. А бацька сказаў, што варта пачакаць. Няхай, кажа, ён едзе дахаты, а ты вяртайся да нас. Пройдзе год — і пераканаецеся, ці вашы пачуцці былі дастаткова моцныя, каб вытрымаць усе нягоды лёсу.

Ну, і зрабіла я так, як раіў бацька. Я ж верыла ў тое, што бацькі мне не ворагі. Думала, год міне хутка, а тады мы возьмем шлюб. Праўда, мой хлопец настойваў, каб мы вянчаліся ў касцёле, але я падумала, што мо за гэты час ён нешта перадумае.

Неўзабаве я пазнаёмілася на працы з іншым хлопцам. Быў, як і я, праваслаўны. Бацькі былі проста шчаслівыя. Прымалі яго як найдаражэйшага госця. Калі пачаў прыходзіць да мяне штодзень, амаль заўсёды ў хаце было свята. Але я яго не кахала так моцна, як таго першага, ад якога, на жаль, лісты пачалі прыходзіць усё радзей, а ўрэшце ён і зусім перастаў пісаць. Мо я кепска зрабіла, што напісала яму пра ўсё, што дзеецца ў мяне, але інакш сабе сяброўства я не ўяўляла. Мо пакрыўдзіўся, мо яго пачуцці да мяне ахаладзелі.

Я выйшла замуж за „свайго", праваслаўнага хлопца. І пражылі мы з ім у згодзе дваццаць пяць гадоў. Выхавалі дачку і сына, якія ўжо пажаніліся і маюць свае сем'і. А я засталася адна і вяду самотна сваё ўдавінае жыццё.

Аднойчы я вырашыла пашукаць сваё няспоўненае каханне. А як жа! Ён жыў і быў таксама ўдаўцом. Таксама меў двое дарослых дзяцей, якія былі ўжо на сваім. І ўяві сабе, што ён не толькі адказаў мне на ліст, але і прыехаў да мяне. Усе пачуцці нахлынулі на нас з новай сілай. Быццам бы ніколі мы і не расставаліся, быццам бы ніхто не ўваходзіў у наша каханне. Ён запрапанаваў мне ўзяць шлюб. Я ведаю, што гэты шлюб надта спознены. Але зразумей, Сэрцайка, так хочацца мець кагосьці толькі для сябе. У дзяцей ужо сваё жыццё, маці ім патрэбная мо толькі ў якасці нейкай дапаможнай сілы. А мне хочацца яшчэ жыць, мне ж усяго пяцьдзесят шэсць гадоў. Бацькі мае ўжо памерлі і ніхто не будзе папракаць, што не тая вера. А зрэшты, ці ж цяпер гэта мае нейкае значэнне... Што ты параіш, Сэрцайка?

**Анеля**

Анеля! Жыццё занадта кароткае, каб не пражыць яго так, як чалавек мае ахвоту. Калі табе не ўдалося пражыць яго адразу так, як хацела б гэтага ты, дык мо варта спрабаваць цяпер. Лепш позна, чым ніколі. А ўсё ж чалавек не будзе такі самотны.

**Сэрцайка**